БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 34 (13566)

17 — 23 жніўня 1992 года

Кошт 3 рублі.

У НУМАРЫ:



*ПАДПІСКА-93* *ПАДПІСКА-93*

## НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ ВЫБІРАЕ "ЧЫРВОНУЮ ЗМЕНУ"

Беларусь. Беларусы. Беларускасць... Гэтыя словы набылі для нас не проста геаграфічна-этнаграфічны сэнс. Ва ўшанаванні спадчыны нашай бачым мы прамы і роўны шлях да будучыні. І будучыня гэтая павінна стаць светлай, шчаслівай, заможнай. Не на вучэнні "класікаў" апіраецца нашае спадзяванне, а толькі на веру ў чалавека. Гаворачы ад імя калектыву "Чырвонкі", мы сцвярджаем: слова – не зброя для нас! Слова – сродак, які дапамагае дайсці да сэрца чалавека, супакоіць узрушаных, падтрымаць абяздоленых, тых, хто страціў надзею і веру. Мы ж – верым. Верым у Беларусь, у чысціню душы яе людзей, у невычэрпнае багацце іх пачуццяў. Гэтую веру мы мусім перадаць нашым чытачам. Менавіта ў гэтым – нашая звышзадача.

Пакуль "Чырвоная змена" – адзіная ў рэспубліцы сапраўды беларуская маладзёжная газета. Мы не баімся канкурэнцыі, наадварот – вітаем яе, калі гэтая канкурэнцыя, гэтае спаборніцтва – творчае. На вялікі жаль, пакуль нам прыходзіцца змагацца толькі з эканамічнымі праблемамі. Тое, што "Чырвонка" выходзіць, – заслуга як нашых чытачоў, так і тых органаў улады, якія падтрымалі нас у цяжкую часіну. Але асноўная дапамога, сама мэта нашага існавання – наш чытач. Той, хто кожную пятніцу разгортвае свежы нашага штотыднёвіка, каб разам з намі прайсціся па дарогах Беларусі, зазірнуць у яе гісторыю і цяперашні час.

Не будзем пералічваць таго, што мы зрабілі за апошнія гады. З боку відаць лепей. Наперадзе ж яшчэ шмат планаў, новых задумак. Вось толькі б рэалізаваць іх! Для гэтага нам трэба толькі ваша згода, шаноўныя чытачы. Пачалася падпісная кампанія. Сёлета, калі цэны скачуць, як тыя зайцы на грошах, цяжка адлічыць некалькі соцень на газету. Але ж, як кажуць, не хлебам адзіным!

Толькі ад Вас, нашы чытачы, залежыць, ці будзе існаваць "Чырвоная змена". Мы забыліся пра добрую справу – мецэнацтва. Таму сёння звяртаемся таксама і да Вас, чыя падтрымка для нас вельмі патрэбна. Высакародная справа выратавання беларускага друку не застанецца без падзякі.

Мы рабілі ўсё магчымае для таго, каб знізіць кошт падпіскі. Але вельмі шмат грошай забірае Міністэрства сувязі, аплата паслуг якога непамерна вырасла. Таму кошт падпіскі на 1993 год крыху змяніўся і будзе складаць:

**на месяц — 18 рублёў**
**на тры месяцы — 54 рублі**
**на паўгода — 108 рублёў.**

Для тых, хто жадае дапамагчы нам, паведамляем наш разліковы рахунак: № 345480 (код 811) у Беларускім прамыслова-інавацыйным банку г.Мінска.

Загадзя з удзячнасцю

РЭДКАЛЕГІЯ "ЧЗ"

*Тыя, хто вырашыў ісці ў нагу з часам, могуць падпісацца на "Чырвоную змену" толькі ў аддзяленнях сувязі. Па ўсіх пытаннях просім тэлефанаваць у рэдакцыю.*

*Тэл. 32-13-54.*



## Стоп-факт

### НАТО НАМІ ЗАДАВОЛЕНА

13 жніўня завяршылі сваю работу ў рамках Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе інспекцыйныя групы, якія прыбылі ў Беларусь з ЗША і Вялікабрытаніі. Натаўскія ваенныя эксперты наведалі некалькі вайсковых часцей і вырашылі ў рэшце рэшт, што наша рэспубліка не дапускае ніякіх парушэнняў дагавора. Так трымаць!

Усяго ж са дня падпісання Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе (17 ліпеня 1992 года) Беларусь наведалі чатыры інспекцыйныя групы — дзве вышэйназваныя і па адной з Нідэрландаў і Францыі.

### ПАД ЧАС СЛУЖБЫ НІЯКАЙ ПАЛІТЫКІ А ПАСЛЯ ЯЕ?

Апошнім часам пра армію гавораць вельмі шмат. І адным з патрабаванняў, якое прад'яўляюць да яе, — гэта неабходнасць дэпалітызацыі войска. І вось — здзейснілася!

3 жніўня падпісаны загад міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўніка П.П.Казлоўскага аб забароне дзейнасці палітычных партый, грамадска-палітычных рухаў ва Узброеных Сілах.

Як паведаміў начальнік прэс-цэнтра Міністэрства абароны палкоўнік У.П.Замятанін, забаронены таксама ўдзел ваеннаслужачых у рабоце палітычна-арыентаваных структур у службовы час. Што такое службовы час? Гэта распарадак дня вайсковай часці, напрыклад, з сямі да дзевятнаццаці гадзін. А пасля гэтага часу — хоць у прэзідэнты.

Калі ж ваеннаслужачы займаецца палітыкай, знаходзячыся на службе, яго чакаюць папярэджанні. Але калі ён надта "вумны", не разумее, што армія і палітыка — рэчы несумяшчальныя і працягвае з галавой акунацца ў палітыку, то можа быць пакараны (і нават звольнены).

Так што, паважаныя вайскоўцы-палітыкі, прыйдзецца вам займацца сваёй любімай справай амаль падпольна, уначы.

### УЖО 368. А КАНЦА НЕ БАЧНА

Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравала нядаўна пад нумарам 368 новую грамадскую арганізацыю — "Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ".

Як паведамілі ў Мінюсце, мэтай арганізацыі з'яўляецца паслядоўнае ўсталяванне і развіццё дэмакратычных рэформ у нашай рэспубліцы ў галіне мясцовага самакіравання, эканомікі, навукі, культуры, экалогіі, прапаганда ідэй дэмакратыі і павагі да правоў чалавека.

368 — лічба вельмі вялікая (асабліва, калі ўспомніць, што за ёй стаяць партыі, згуртаванні, таварыствы і г.д.). Але гэта, можна сказаць, яшчэ толькі пачатак. Таму што ў Міністэрстве юстыцыі знаходзіцца яшчэ, мякка гаворачы, нямала заяў на рэгістрацыю розных арганізацый. Хто ж наступны?

### СПЕЦПАДРАЗДЗЯЛЕННІ ПА АХОВЕ ПАРАДКУ? БУДУЦЬ!

Размовы аб стварэнні ва Узброеных Сілах Беларусі спецыяльных падраздзяленняў (па тыпу заходніх краін), якія прызначаны для нясення патрульна-пастаявой службы, вяліся з самага пачатку іх існавання. І вось, нарэшце, зроблены першы крок на шляху да іх фарміравання. Міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік П.П.Казлоўскі аддаў распараджэнне аб фарміраванні роты асобага назначэння. Як паведамілі ў Міністэрстве абароны РБ, асабовы склад спецпадраздзялення будзе несці ў Мінску патрульна-паставую службу. Дзякуючы гэтаму адпадзе неабходнасць у патрульных, якія зараз кожны дзень выдзяляюцца ад вайсковых часцей.

Рота асобага назначэння з'явіцца ў сталіцы праз чатыры-пяць месяцаў. Што датычыць абласных цэнтраў, то там будуць сфарміраваны ўзводы з такімі ж задачамі.

### "МАЛАДЫЯ — ДЫ РАННІЯ..."

Зараз, як пра гэта ні балюча гаварыць, павялічылася колькасць абортаў сярод зусім маладых дзяўчат (можна нават сказаць, дзяўчынак). Прычына гэтага нярэдка адна і тая ж: замуж выходзіць яшчэ нельга, а гадаваць дзіцё адной... Гэта часта бывае не пад сілу нават сталым жанчынам. Дык што ж казаць пра тых, якія яшчэ нават школу не паспелі скончыць?

Але выйсце з гэтай, мякка кажучы, непрыемнай сітуацыі будзе, напэўна, у хуткім часе знойдзена. Урад Беларусі разглядае пытанне аб магчымасці зніжэння ўзроставага цэнза для жадаючых заключыць шлюбны саюз. Цяпер узрост ідучых у загс плануецца знізіць да 15—16 гадоў.

Плануецца, што гэта мера дапаможа скараціць колькасць абортаў у дзяўчат, якія яшчэ не дасягнулі шлюбнага ўзросту. Што ж, будзем спадзявацца.

### ХОЧАЦЕ АЎТАМАБІЛЬ? НЯМА НІЧОГА ЛЯГЧЭЙШАГА

Праблему жудаснай дарагоўлі легкавых аўтамабіляў узялося вырашыць акцыянернае таварыства "Мінск-Лада". Але не спяшайцеся радавацца. Тут не збіраюцца гандляваць машынамі, кошт якіх у два разы ніжэй за дзяржаўны. Усё намнога прасцей. Проста таварыства наладзіла пракат "легкавушак". Сёння на яго ўзбраенні 125 машын. У большасці сваёй гэта "Нівы" і "Жыгулі". У залежнасці ад маркі і года выпуску аўтамабіля сутачны кошт яго пракату складае ад 200 да 600 рублёў за наяўны разлік і да 800 рублёў — па безнаяўнаму. Тэрмін пракату — ад сутак да года.

Паслугамі таварыства можа карыстацца любы працаздольны грамадзянін нашай рэспублікі (перавагай карыстаюцца жыхары Мінска і Мінскай вобласці) з трохгадовым вадзіцельскім стажам.

Так што грошы на капот і наперад!

## Дабрачыннасць

### ...І БЕЛЫ КРАКАДЗІЛ У ЗААПАРКУ

14 дзяўчынак і шэсць хлопчыкаў з 10 ліпеня па 1 жніўня адпачывалі ў нямецкім горадзе Лайнхінгене, з якім заключаны дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве. Летась прадстаўнікі грамадскасці Лайнхінгена пабывалі ў Нясвіжы з місіяй дружбы і гуманітарнай дапамогі. Яны прывезлі ў беларускі горад медыкаменты, медыцынскае абсталяванне. А сёлета запрасілі на адпачынак групу дзяцей для іх аздараўлення. Кіраваў дэлегацыяй намеснік старшыні райсавета Л.Ф.Крупец.

Беларускіх дзяцей прымаў рабочы саюз самарыцян — уплывовая грамадская арганізацыя горада. Сродкі, за кошт якіх жылі, адпачывалі і лячыліся нашы дзеці, былі сабраны з узносаў жыхароў горада і акругі.

У межах праграмы былі арганізаваны шматлікія экскурсіі па памятных мясцінах горада —у гістарычны музей, падземныя пячоры і... плавальны басейн, які, аказваецца, уяўляе цэлы комплекс для спорту і адпачынку. Наведалі і фабрыкі, майстэрні, іншыя арганізацыі. Была і паездка ў суседні горад Штутгарт, дзе ёсць буйнейшы ў Еўропе заапарк. Уражанням не было канца. Дарэчы, крыху пазней, калі дзеці прывыклі, іх запрасілі пагасціць у сем'і. І тут ім таксама спадабалася...

Усе дзеці прайшлі падрабязнае медыцынскае абследаванне, кожны атрымаў індывідуальнае назначэнне, крыху пазней з Лайнхінгена будуць дастаўлены лекі.

**І.Чырко.**

## Рэпліка

### Новая канспіратыўная кватэра Леніна

У рэшце рэшт Менскі метрапалітэн перабудаваўся і, не даючы больш прычыны для стварэння анекдотаў пра вечнападпольны характар дзеяння бальшавікоў і іх ідэйнага лідэра, перайменаваў былую станцыю "Плошча Леніна" ў "Плошча незалежнасці". Што ж, адной байкай зрабілася менш, але людзі не заўсёды разумеюць, чаму афармленне станцыі захавалася старым. Можа рэвалюцыянеры яшчэ больш заканспіравалі сваю дзейнасць?

**Паўлюк Быкоўскі.**

## Правінцыяльная хроніка

### БЕЛАРУСКАМУ ГУМАНІТАРНАМУ — БЫЦЬ?

13 жніўня ў газеце "Звязда" з'явіўся матэрыял, у якім паведамлялася, што ў Навагрудку ў хуткім часе можа з'явіцца новая ВНУ — Беларускі гуманітарны універсітэт. Згадзіцеся, што вельмі непрывычна ўявіць сабе такую салідную ўстанову... у раённым цэнтры.

А таму, каб развеяць усялякія сумненні, я вырашыў звярнуцца ў гарвыканкам Навагрудка з просьбай пракаменціраваць гэты факт. У ходзе размовы старшыня гарвыканкама Георгій Стасевіч Бака паведаміў, што ідэю адкрыцця ў Навагрудку Беларускага гуманітарнага універсітэта падаў прафесар многіх замежных акадэмій Барыс Кіт, які ў 30-х гадах з'яўляўся дырэктарам мясцовай беларускай гімназіі.

БГУ, на думку вучонага, павінен быць беларускім па форме і па духу. Сам жа Б.Кіт абяцаў аказаць неабходную падтрымку аж да прыцягнення замежных выкладчыцкіх кадраў.

Але, як падкрэсліў Г.С.Бака, вучоны забывае, што ў нашых умовах вельмі цяжка падняць такую справу (нават калі глядзець толькі з матэрыяльнага боку). Ды гэта і нядзіўна, бо Б. Кіт практычна ўсё сваё жыццё правёў за мяжой. Там жа ён знаходзіцца і зараз, але, як паведамілі ў гарвыканкаме Навагрудка, хутка плануе зноў завітаць у гэты старажытны беларускі горад, каб распачаць добрую справу.

Што ж, будзем чакаць. Можа, дзякуючы такім людзям і на Беларусі праз колькі год з'явяцца дзесяткі новых універсітэтаў, як гэта ёсць у Германіі.

**Франц Лявіцкі.**

### ПРЫГОЖА ЖЫЦЬ НЕ ЗАБАРОНІШ

У Барысаве адбыўся конкурс на званне "Міс і Містэр Барысаў-92", спонсарамі якога сталі страхавая фірма "Полар", фірмы "Зеро" і "Ювента".

Кампетэнтнае журы прысудзіла званне "Міс Барысаў-92" студэнтцы Белдзяржуніверсітэта імя Ф.Скарыны Алене Бурай. Звання "Містэр Барысаў-92" удастоены Сяргей Мікуценіс, які працуе на малым вытворчым прадпрыемстве "Стваральнік".

Пераможцы конкурсу ўзнагароджаны замежнымі пашпартамі і бясплатнымі пуцёўкамі ў Польшчу. Акрамя таго, А.Бурая атрымала мыечную машыну і набор пасцельнай бялізны, а С.Мікуценіс — пыласос і радыёпрыёмнік. Былі выбраны таксама "Міс і Містэр-Арыгінальнасць".

Наогул, ніхто з удзельнікаў конкурсу не вярнуўся дадому з пустымі рукамі — хоць па 300 рублёў ды атрымалі хлопцы і дзяўчаты.

**С.Букаціч.**

### КАНФЕРЭНЦЫЯ ПА ПЫТАННЯХ... СВЯДОМАСЦІ

19—20 жніўня ў Маладзечна адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя "Развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў", праведзеная Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф.Скарыны, Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, Акадэміяй навук Беларусі. У канферэнцыі прымалі ўдзел каля 150 даследчыкаў-філолагаў, філосафаў, культуролагаў і г.д. Сюды з'ехаліся людзі з розных краін свету, а таксама слухачы Міжнароднай школы беларусістыкі, што працуе зараз пры Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Арганізавалі канферэнцыю Савет Міністраў, Маладзечанскі выканкам гарсавета і прыватная фірма "Бізнес-цэнтр". На гэта цікавае мерапрыемства былі запрошаны настаўнікі, работнікі культуры рэспублікі, навукоўцы.

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Міхаіл ДРАЧАН, загадчык аддзела студэнцкіх атрадаў і працоўных аб'яднанняў школьнікаў службы занятасці моладзі РБ:*

– У Мінскай вобласці студэнцкіх будатрадаў гэтым летам няма. Беларускія гаспадаркі цяпер не будуюць, а таму не маюць патрэбы ў маладых сілах. Аднак па-ранейшаму працуюць будаўнічыя атрады ў Цюменскай, Іркуцкай, Архангельскай абласцях, каля дзвюх з паловай тысяч школьнікаў збіраюць садавіну і агародніну ў Краснадарскім і Стаўрапольскім краях.

Атрады накіроўваюцца ў гаспадаркі, супрацоўніцтва з якімі вядзецца ўжо на працягу дваццаці гадоў. Там створаны нармальныя ўмовы жыцця і працы для прыезджых памочнікаў. Да таго ж на месцах дзейнічаюць структуры (службы занятасці, СП), якія займаюцца арганізацыяй быту моладзі.

Павялічыліся затраты, а таму ўзраслі і патрабаванні гаспадарак да людзей, якія прыязджаюць працаваць. Калі паказчыкі высокія, то і льготы добрыя: аплата праезду ў абодва бакі, паловы кошту харчавання, а ў будаўнічых атрадах са студэнтаў не спаганяецца падаходны падатак.

Асобна трэба сказаць пра маладзёжныя атрады ў Прыднястроўі. Толькі ў канцы чэрвеня ў малдоўскія калгасы імя Свярдлова і "Дружба народаў" выехалі нашы юнакі і дзяўчаты. У Прыднястроўі ўсё спакойна. Для прыезджых створаны добрыя ўмовы працы.

На сённяшні дзень служба занятасці моладзі і студэнтаў займаецца фарміраваннем атрада для збору агародніны ў Малдову, а таксама ў Цюмень на будаўнічыя аб'екты.

*ІВАНОВА Ніна Сямёнаўна, сакратар прэзідыума Беларускага рэспубліканскага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі:*

– Работу нашага таварыства можна падзяліць на два этапы. Першы – да 1986 года, другі – пасля яго. Да 86-га мы займаліся толькі культурнымі сувязямі, якія выражаліся ў папулярызацыі беларускай нацыянальнай культуры за мяжой і культуры замежных краін у нашай рэспубліцы.

Зараз культурныя сувязі таксама застаюцца важнейшымі ў нашай рабоце. Так, у мінулым годзе мы правялі Дні Беларусі ў Балгарыі, у гэтым годзе – у Швейцарыі. А 24 верасня ў тэатры імя Янкі Купалы адбудзецца адкрыццё Дзён балгарскай культуры ў Беларусі, якія пройдуць да 30 верасня ў Мінску, Заслаўі, Магілёве і ў адным з калгаса Мінскага раёна. Дзесьці ў красавіку-маі наступнага года чакаем у госці сяброў са Швейцарыі.

Пасля 1986 года ў нашым таварыстве з'явіўся новы аддзел – сацыяльнага жыцця і ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС. Пасля гэтай бяды мы ўсім сваім партнёрам (звыш 70-ці краін свету) паслалі фотавыставу пра Чарнобыль. Павінна прызнацца, што мы нават не чакалі, што да нас хлыне такі паток людской дабрыні. З усіх куткоў планеты пачала паступаць дапамога, і мы вымушаны былі стварыць аддзел па яе размеркаванню. Раней нам з-за мяжы прысылалі вельмі многа харчоў (думалі, напэўна, што ў нас з гэтым тугавата). А ў апошні час мы пачалі прымаць заявы з розных медустаноў і перадаваць сваім партнёрам за мяжой, а тыя, у сваю чаргу, арыентуючыся на гэтыя заяўкі, дасылаюць нам усё неабходнае. Зараз мы атрымліваем медыкаменты, медабсталяванне ці проста грошы. Так, да нас паступіла вельмі многа сістэм пералівання крыві і дзесяць ультрагукавых сканераў. За 1991–1992 гады замежжа даслала нам звыш 12 мільёнаў даляраў у якасці грашовай дапамогі.

За апошні час у нас створана 21 праўленне па сувязях з замежнымі краінамі. Праз наша таварыства замежнікі наладжваюць і эканамічныя сувязі з Беларуссю.

Сёння нас найбольш турбуюць сувязі з краінамі СНД, чыя культура на працягу больш як сямідзесяці гадоў ішла разам з беларускай. Мы разаслалі свае прапановы аб супрацоўніцтве ўсім рэспублікам былога СССР (акрамя закаўказскіх, дзе пакуль што не да гэтага), а атрымалі "дабро" толькі з Кыргызстана, Украіны і Казахстана. Астатнія ж пакуль што маўчаць.

*КУШНІР Алег Іванавіч, віцэ-прэзідэнт Беларускага рэспубліканскага саюза прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання насельніцтва:*

– У наш саюз зараз уваходзяць 202 камбінаты бытавога абслугоўвання. КБА ў сваю чаргу складаюцца з шырокай сеткі структурных звенняў: розных атэлье, прыёмных пунктаў, дамоў быту... І менавіта на іх адлюстраваліся ўсе цяжкасці пераходу да рыначнай эканомікі. Пасля павышэння цэн у нашай галіне пачалася сапраўдная неразбярыха: прадпрыемства прымала заказ, цэны за час яго выканання падымаліся, а заказ прыходзілася рэалізоўваць па старых расцэнках. Усё з-за таго ж падаражання вытворчасць у нас скарацілася прыкладна на 30 працэнтаў. За апошняе паўгоддзе наша рэнтабельнасць склала ўсяго 5,1 працэнта. З такой рэнтабельнасцю мы нічога не зможам зрабіць для паляпшэння справы. Але выйсце, канешне, ёсць. Проста для нас на нейкі час трэба ўвесці льготнае падаткаабкладанне. А то зараз мы плацім за фонды, падаткі, энерганосьбіты нароўні з буйнымі прадпрыемствамі. Так, напрыклад, за кранік з гарачай вадой (які вельмі неабходны ў тых жа цырульнях) у Мінску трэба заплаціць 80 тысяч рублёў у год. І яшчэ. Цэны на сыравіну павысіліся прыкладна ў 42 разы. Зразумела, што не ўсе свае паслугі мы можам падняць настолькі ж.

Вельмі вялікі галаўны боль нам прычыняюць сёння сельскія дамы быту, якія размешчаны дзе-небудзь на цэнтральных сялібах калгасаў ці саўгасаў. Раней іх было каля 400. І многія затраты гэтых дамоў бралі на сябе тыя гаспадаркі, на тэрыторыі якіх яны размяшчаліся. Цяпер жа настаў такі час, што гаспадаркі самі ледзьве дыхаюць. А таму ўсе цяжкасці зваліліся на кіраўніцтва дамоў быту. А яно нярэдка не вытрымлівае шалёных цэн на сыравіну, перабояў у выдачы заробку, і дамы быту, стаўшы банкрутамі, зачыняюцца, а іх работнікі аказваюцца на вуліцы. На сённяшні дзень у галіне абслугоўвання насельніцтва каля 18 тысяч чалавек засталіся без работы. Нашы прадпрыемствы перасталі накіроўваць заказы ў ПТВ на маладых спецыялістаў.

Вось такія справы. І калі "бязмежжа" рынку не спыніць, многія прадпрыемствы стануць банкрутамі, а людзі трапяць за борт жыцця. А можа галіна абслугоўвання насельніцтва і ўвогуле знікне.

# ПРА ЦАРКВУ І БЕЗ ФІМІЯМУ

*Кесару — кесарава,*
*Богу — Богава*

*Апошнім часам назіраецца ўсё цяснейшая "змычка" рэлігіі з палітыкай. Раней, існуючы ў адзінай і палітычнай прасторы са свецкай уладай, Царква не магла заставацца нейтральнай да тых падзей, якія адбываліся вакол яе. Яна сама тады залежала ад палітыкі, дый у значнай ступені спрычынялася да яе ажыццяўлення. Аднак зараз, ва ўмовах станаўлення дэмакратыі, зварот да нялепшай практыкі палітызаванага царкоўнага жыцця з'яўляецца, на мой погляд, недапушчальным. Я з цяжкасцю ўспрымаю царкоўнае адзенне праваслаўных святароў у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета. Усё-ткі кесару павінна належаць кесарава, а Богу — Богава. Сумна назіраць, як у нашыя дні Царква, якая заклікана злучаць чалавека і Бога, пачынае з усё большай настойлівасцю паглыбляцца ва неўласцівыя яе духу свецкія справы, ставіць пытанні той ці іншай рэлігіі вышэй за Веру Хрыстову. "Лоўля душ", барацьба за манапольнае валоданне імі дзеля паварочвання людзей ва ўлонне "адзіна правільнай", агульнадзяржаўнай Царквы патыхае ўсё тым жа таталітарным духам недалёкага мінулага.*

У сувязі з вышэй азначаным вялікую цікавасць, як прыклад да аналізу, выклікае "Пасланне да духавенства і вернікаў Сінода Беларускага Экзархату", якое атрымала шырокае асвятленне ў рэспубліканскай перыёдыцы розных напрамкаў, а таксама ў беларускім друку замежжа. Гэты дакумент, азагалоўлены "Праваслаўнай Царкве на Беларусі 1000 гадоў", азначае, што 1992 год для нас з вамі — год юбілейны, святочны, благаславёны, бо ў 992 годзе з заснаваннем Полацкай епархіі пачалося не толькі царкоўнае ўладкаванне на беларускай зямлі, але гэтая дата (як сцвярджаецца ў "Пасланні") "з'явілася і найважнейшай пачатковай падзеяй у грамадскай гісторыі Беларусі..." Шмат чаго цікавага ёсць у "Пасланні"... І аб уваходзе дзякуючы гэтай падзеі беларускіх зямель у сям'ю еўрапейскіх народаў пад імем Белай Русі і аб ролі праваслаўнай царквы ў захаванні дый развіцці нацыянальнай культуры і мовы, "што дае магчымасць усім народам успрымаць і выказваць слова Боскае на іх роднай мове". Ёсць тут і славуты сын горада Полацка "Георгій-Францішак" Скарына і "спрадвечная гістарычная і духоўная супольнасць беларускага, рускага і ўкраінскага народаў", і заклік "выконваць волю Хрыстову і яго закон, які прадпісвае нам любіць блізкага і класці душу за сяброў сваіх". Шмат прыгожых, узнёслых слоў прысвечана Святой Праваслаўнай Царкве!

Дарэчы, варта прыгадаць калёквіум "Аб пачатку Полацкай епархіі", які адбыўся ў лістападзе 1991 года ў Мінскім епархіяльным упраўленні. Ішла гаворка пра наданне святу агульнацаркоўнага і агульнанацыянальнага характару. "Гэтае свята,— сказаў Патрыяршы Экзарх Беларусі Філарэт,— павінна паслужыць кансалідацыі беларусаў усяго свету". З гэтай думкай пагадзіліся духоўныя асобы, а таксама вядомыя вучоныя — Г.Штыхаў, А.Мальдзіс, М.Ермаловіч, В.Голубеў, іншыя навукоўцы і царкоўныя дзеячы. Можна толькі шчыра вітаць жаданне ўдзельнікаў калёквіуму праз свята наблізіць душы людзей да разумення спрадвечных ісцін дабра і маральнасці, якія нясе Хрыстова Царква. У той жа час знаёмства з тэкстам "Паслання" пакідае дваістае ўражанне, выклікае шэраг пытанняў.

Першае з іх — у самой яго назве "Праваслаўнай Царкве на Беларусі 1000 гадоў". Хай прабачаць мне святыя айцы Рускай Праваслаўнай Царквы на Беларусі, але агульнавядомым гістарычным фактам з'яўляецца тое, што падзел (схізма) адзінае Хрысціянскае Царквы здарыўся толькі ў 1054 годзе. Гэта, безумоўна, трагічная для хрысціянскага свету падзея. Знешне ўсё выглядала так: адбыўся канфлікт паміж Канстанцінопальскім патрыярхам Міхаілам Кіруларыем і Рымскім легатам кардыналам Гумбертам, якія публічна адлучылі адзін аднаго ад царквы. Канчатковы ж падзел паміж заходняй і ўсходняй царквой, аддзяленне ад адзінае ўсяленскай (каталіцкай) царквы праваслаўнай (артадаксальнай) плыні ўжо аформілася пасля заваёвы Канстанцінопаля крыжакамі ў 1204 годзе.

Упэўнены, што гэта вядома спецыялістам па грамадзянскай гісторыі гэтак жа добра, як і шаноўным гісторыкам Царквы. Узнікае пытанне: навошта спатрэбілася ў "Пасланні" скажаць традыцыйнае, агульнапрызнанае датаванне фактычнага ўзнікнення гэткага адгалінавання ў хрысціянстве, як Праваслаўе, у сувязі з пытаннем усталявання хрысціянства ў Полацку, якое, як мы бачым, адбылося раней за падзел Усяленскай Царквы?

Паколькі аналагічная дата (1000-годдзе прыняцця хрысціянства на Русі) параўнальна нядаўна (у 1988 г.) шырока адзначалася Рускай Праваслаўнай Царквой, мусіць, ёсць сэнс больш падрабязна спыніцца на ёй у сувязі з маючым адбыцца святкаваннем на Беларусі. Год (988-ы) лічыцца пачаткам хрышчэння Русі, таксама як і год заснавання Полацкага біскупства (992-і) з'яўляецца ўмоўным. Першая дата — легендарнае хрышчэнне насельнікаў Кіева — служыць толькі прамежкавым пунктам працяглай хрысціянізацыі ўсходніх славян, другая — не мае вызначаных гістарычных звестак. Невядома дакладна, калі і кім была заснавана Полацкая епархія. Паводле ўскосных звестак, можна меркаваць, што гэта падзея адбылася ў X — пачатку XI стагоддзя. Прынамсі, пад 1007 годам у Лаўрэнцьеўскім летапісе згадваецца Полацкая "старая" царква святой Багародзіцы, куды былі перанесены нейкія святыя рэліквіі...

Але справа не ў датах. Большую цікавасць уяўляюць палітычная афарбоўка ды інтэрпрэтацыя гістарычных падзей і фактаў. На першы план усё больш актыўна зараз выступаюць моманты "традыцыйнасці" праваслаўя да пэўных нацый дый тэрыторый. Заўважаецца настойлівае жаданне падкрэсліць "спрадвечную еднасць" старажытнай царквы на Беларусі, гэтак жа, як і на Украіне дый у Расіі. Больш таго, калі ў 1988 г. ішла размова толькі аб прыняцці хрысціянства, то на Беларусі ў 1992 г. ужо проста — праваслаўя. Такім чынам, добра прасочваецца імкненне адрадзіць Праваслаўную Расійскую Царкву не толькі як агульнаславянскую, але і агульнадзяржаўную структуру з цэнтрам у Маскве. Нездарма ж галоўныя мерапрыемствы святкавання праходзілі не ў Кіеве, а, менавіта ў Маскве. Але калі звернемся да даўняй гісторыі царквы, то ўбачым, што ў старажытнасці яна таксама з'яўлялася запалітызаванай. Напрыклад, легенда хрышчэння Кіева мясцовым князем у знешнепалітычным аспекце была скіравана на абгрунтаванне прэтэнзій да вяршэнства сярод усходнеславянскіх і іншых насельнікаў рэгіёна, утварала рэлігійную афарбоўку "правам" кіеўскіх князёў. Зараз міф аб амаль адначасовым хрышчэнні Кіеўскіх зямель успрымаецца гісторыкамі дастаткова крытычна.

Як жа ішлі справы на Беларусі? Пытанне пачаткаў хрысціянства на нашых землях больш нявысветленае, чымсьці на Кіеўшчыне. Падзеі на Беларусі абмяжоўваюцца звесткамі з летапісаў пераважна кіеўскага паходжання. У іх шмат недагавораў і свядомага выкарыстання фальшывых фактаў, бо дакументальныя крыніцы праходзілі строгую цэнзуру з боку грэчаскіх мітрапалітаў, а пазней — кіеўскіх летапісцаў. Гэта давала ў далейшым глебу для стварэння "тэорый", што служылі ідэалагічнымі падвалінамі палітычных імкненняў спачатку кіеўскіх, а потым маскоўскіх князёў, цароў, якія сваю экспансію на землі суседзяў абгрунтоўвалі барацьбой за "сапраўдную" веру, нібыта атрыманую імі ў сваёй чысціні непасрэдна ад Візантыі, спадчыннікамі якой яны, згодна з кананічнымі законамі, лічылі сябе.

Што ж да сапраўднасці, то археалагічныя знаходкі сведчаць аб даволі развітых стасунках насельніцтва старажытнай Беларусі з хрысціянскімі краінамі ў часы вельмі далёкія ад афіцыйных дат прыняцця хрышчэння на нашых землях. Вялікая іх колькасць выяўлена ў раёнах, прылягаючых да шляху "З варагаў у грэкі", значны адрэзак якога праходзіў праз тэрыторыю сучаснай Беларусі. На гэтым шляху буйнейшым беларускім горадам у старажытнасці быў Полацк, які ўжо да IX ст. быў шырока вядомы ў гандлёвых цэнтрах Візантыі, Скандынавіі, іншых краях. Такім чынам, хрысціянская рэлігія прасоўвалася па зямлі нашых продкаў з разных бакоў — з аднаго ішлі ўплывы ўсходнія: грэчаскія і балгарскія, а з другога — заходнія: скандынаўскія, нямецкія, мараўскія. Аднак асноўная плынь першапачатковай хрысціянізацыі на Беларусі ішла, верагодна, з Балгарыі. Характэрна, што балгарскі ўплыў на хрысціянізацыю старажытных усходнееўрапейскіх зямель, як і заходніх плыней, старанна замоўчваецца. Летапіс сведчыць, што хрышчэнне ў Кіеве праходзіла гвалтоўна, а ў Ноўгарадзе ўвогуле былі крывавыя бойні. Хаця дакументальных звестак вельмі мала, можна меркаваць, што хрысціянізацыя на Беларусі праходзіла інакш. Полацкаму княству-дзяржаве, якая амаль заўсёды захоўвала сваю незалежнасць ад Кіева, не было неабходнасці ў прымусовым укараненні хрысціянства. Гэтыя працэсы ішлі тут больш павольна і натуральна.

Вельмі няяснымі застаюцца пытанні пачатковай структуры хрысціянскай царквы на Беларусі, паходжання і нацыянальнай прыналежнасці першых святароў на ўсходнеславянскіх землях. Надзейных дакументальных крыніц няма, але калі ўлічыць факты вялікага балгарскага ўплыву, то падобна, што першыя святары прыйшлі да нас з Балгарыі, дзе ў 927 г. у г.Охрыдзе быў заснаваны Балгарскі патрыярхат. Сцвярджэнне аб першапачатковым усталяванні на Беларусі менавіта царквы "праваслаўнай" не могуць з'яўляцца слушнымі таму, што нават у той час, які ўмоўна лічыцца і прапагандуецца ў якасці межавага слупа паміж паганствам і хрысціянствам, такой выразна акрэсленай царквы проста не было. Існавала адзіная Усяленская (каталіцкая, ці, па-грэцку, кефалічная) Хрыстова Царква. Ухіл да візантыйскай знешняй абраднасці, якая сапраўды мела пэўныя адрозненні ад рымска-лацінскай, не можа лічыцца вызначальным, каб назваць Царкву нашых продкаў больш познім тэрмінам "праваслаўная". Папа Рымскі быў гэтак жа высокім герархам для адзінай царквы, як і партыярх у Канстанцінопалі. Яны ўспаміналіся на богаслужэннях па лацінскаму абраду гэтак жа, як і па грэцкавізантыйскаму. Аніякіх непаразуменняў у нашых продкаў гэтая акалічнасць не выклікала. Калі ўжо быць зусім дакладнымі, то царкву тых далёкіх часоў можна назваць Праваслаўнай Каталіцкай Хрыстовай Царквой, дэфініцыя дый існасць якой па сучаснаму сэнсу больш адпавядае Царкве грэкакаталіцкай, уніяцкай.

Мы спыніліся на пытаннях першапачатковага заснавання хрысціянства сярод усходніх славян таму, што на працягу стагоддзяў яны былі дый застаюцца аб'ектамі палітычных і ідэалагічных махлярстваў, што маюць на мэце абгрунтаванне вялікадзяржаўных амбіцый, захопаў і зняволення народаў на той падставе, быццам яны адразу, нібыта па волі Усявышняга, зрабіліся дый спрадвеку былі "адзінаверцамі" праваслаўнымі (у сучасным разуменні гэтага паняцця), а потым "збочылі" пад уздзеяннем знешніх сіл. З гэтай мэтай праваслаўе ў свядомасці людзей настойлівай прапагандай звязваецца з Рускай Праваслаўнай Царквой, з Масквой, якая нібыта з'яўляецца прамой пераемніцай правоў "другога Рыма" — Канстанцінопаля. Пры гэтым у цяні застаецца пытанне — якое дачыненне мае Масква да ранняй гісторыі Украіны? Бо Масквы пад час летапісных падзей хрышчэння Кіева ўвогуле не было, а тэрыторыя, на якой яна пазней з'явілася, насялялася плямёнамі угра-фінскага паходжання.

Адзначым, дарэчы, што і ў наш час расійскія гісторыкі звычайна замоўчваюць ці прыніжаюць значэнне Полацка, супрацьпастаўляюць толькі два гарады — Кіеў і Ноўгарад. Старанна абыходзіцца факт, што ў XI ст. Сафійскія саборы меліся не толькі ў гэтых гарадах, але таксама і ў Полацку, што сведчыла аб яго значнасці і самастойнасці, адлюстроўвала саперніцтва гэтых цэнтраў хрысціянства нават у сферы царкоўнага ўладкавання.

Ствараецца ўражанне, што царкоўныя гісторыкі ўслед за расійскай гістарыяграфіяй дый афіцыйнай савецкай і посткамуністычнай гістарычнай навукай аніяк не могуць пагадзіцца з самастойным дзяржаўным існаваннем у мінулым Полацкага княства-дзяржавы. Звычайная, характэрная для ўсіх краін сярэднявечча часовая васальная залежнасць ад таго ці іншага цэнтра, які ў пэўны момант па розных прычынах набываў вагу (у нашым выпадку — Кіеў-Полацк), малюецца як нейкая наканаваная лёсам, асноўная ў шматвяковай гісторыі падзея. Можна зразумець роспач некаторых расійцаў з тае нагоды, што Украіна, дый Беларусь адыходзяць ад імперыі і "ўносяць" з сабой добры кавалак гісторыі, які гэтак звыкла было лічыць сваёй, "тысячелетней". Але ім, пры ўсім спачуванні, трэба зрэшты ўсвядоміць, што народы бяруць не чужое, а вяртаюць сваю, калісьці адабраную гісторыю. Працэс гэты незваротны, яго не спляжыць танкамі, не стрымаць ідэалагічным камланнем і заклёнамі. Менавіта ў ёй, сваёй, а не суседскай гісторыі трэба шукаць духоўную сілу і моц. Мо нездарма менавіта зараз, пасля развалу былога Саюза, калі Беларусь нарэшце крочыла на ўласны шлях, пачала звяртацца да сваёй гісторыі, гэтак гучна забілі званы аб "спрадвечным рэлігійным адзінстве" славянскіх народаў. А калі факты камусьці не даспадобы, то гістарычная праўда пераносіцца ў сферу ірацыянальных паняццяў духоўнага, рэлігійнага "спрадвечнага адзінства", якога ў рэчаіснасці не было дый быць не можа.

Менавіта таму выклікае сум і жаль намаганне Рускай Праваслаўнай царквы, якая, так атрымліваецца, узялася падмяніць сабой ідэалагічныя аддзелы сканаўшай КПСС. Гісторыя мае шмат вопратак, але ніколі не апранае адну і тую ж двойчы. Спробы стварыць замест "адзінага савецкага" — "адзіны праваслаўны" народ, які быў бы ў рэлігійных адносінах падпарадкаваны герархам Масквы,— гэта паўтор гісторыі, якая не стала рэчаіснасцю за шмат стагоддзяў. Не сакрэт жа, што значная частка насельніцтва нашай рэспублікі (ужо не кажучы аб верніках іншых канфесій) — гэта католікі і пратэстанты. Ці ўжо яны не лічацца часткай беларускага народа? Ці мяркуецца іх неяк аператыўна перарабіць, выправіць, адарваць ад "чужой", "памылёнай" веры і зліць у "агульнанацыянальную"? Дый увогуле, як бачыцца арганізацыя нацыянальнага свята на Беларусі царквой, што афіцыйна з'яўляецца філіяй Царквы замежнай дзяржавы?

**Міхась Кошалеў,**
**гісторык.**

Пасляслоўе ад рэдакцыі. Нарыс Міхася Кошалева друкуецца з пэўнымі скарачэннямі. Мы змушаны былі іх зрабіць з-за абмежаванасці газетнай плошчы. Асабліва значна былі зменшаны гістарычныя экскурсы. Апошняе не мае ніякага дачынення да поглядаў аўтара, хаця, бясспрэчна, нататкі М.Кошалева друкуюцца ў дыскусійным парадку і, пэўна, знойдуцца жадаючыя выказаць процілеглы вышэйзмешчанаму пункт погляду. Штотыднёвік ахвотна прадставіць свае старонкі жадаючым паспрачацца.



# АНАТОМІЯ КРЫЗІСУ

*Зноў людзі ў разгубленасці. Нягледзячы на тое, што беларусы прызвычаіліся да росту цэн, кожная новая пастанова Саўміна ўспрымаецца, так бы казаць, з болем у сэрцы і адчуваннем ненатуральнай пустаты ў кішэнях. І самай распаўсюджанай фразай у такія дні становіцца рытарычнае пытанне: "Як жыць далей?"*

Савет Міністраў Беларусі вырашыў падсаладзіць пілюлю. З пачуццём выкананага абавязку ён паведаміў, што прыняты "шэраг мер па паляпшэнню матэрыяльнага становішча жыхароў рэспублікі". І трохі ніжэй сціпла павысіў цэны на самыя жыццёва неабходныя тавары – хлеб і малако. Без масла, вядома ж, можна абысціся... Не хачу станавіцца ў позу прарока, але, па-мойму, не за гарамі і павышэнне цэн на мяса. Тады кілаграм каўбасы стане вялікай раскошай, якую многія з нас дазволяць сабе толькі па вялікіх святах.

Кажуць, што кароль Францыі Генрых IV мэтай свайго кіравання вызначаў так: "Жадаю, каб у кожнага француза хаця б у нядзелю быў певень у гаршку". Не ведаю, як з пеўнем, але курыцу некаторыя беларусы цяпер бачаць хіба толькі ў ружовым сне. Пацвярджэннем гэтага – дакумент, апублікаваны Дзяржкамітэтам РБ па статыстыцы і аналізу. Гэтая шырокая панарама нашага жыцця атрымала назву "Сацыяльна-эканамічны стан Рэспублікі Беларусь у першым паўгоддзі 1992 года".

Абзацы зводкі вельмі падобныя вось чым: у адносінах да нацыянальнага даходу, развіцця прамысловасці, узроўню жыцця ўжываюцца словы "знізіўся", "скараціўся", "упаў", а дзеяслоў "павысіўся" характарызуе амаль выключна цэны, цэны і яшчэ раз цэны. Такім чынам, нырнём у сохлыя лясы лічбаў эканамічных выкладак... На жаль, яны суцешыць не здольныя...

Як паведамляе Дзяржкамстат, у першым паўгоддзі гэтага года нацыянальны даход рэспублікі знізіўся на 13 працэнтаў, у тым ліку ў прамысловасці – на 9, сельскай гаспадарцы – на 22, будаўніцтве – на 11 працэнтаў. Прычым асноўнай прычынай гэтага называецца парушэнне міжрэспубліканскіх сувязяў. Рост інфляцыі, павышэнне цэн на энерганосьбіты прывялі да таго, што ў параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года аптовыя цэны ў прамысловасці рэспублікі павялічыліся ў 15,6 раза, а рознічныя цэны ў дзяржаўным і кааператыўным гандлі – у 8 разоў. Грашовыя ж даходы насельніцтва ўзраслі ўсяго ў 5,3 раза. У рублёвым выражэнні гэта складае 9586 руб. на душу насельніцтва, што на паўтары тысячы болей, чым па астатніх краінах СНД.

Што ж можна набыць за гэтыя грошы? Ніжэй прыведзена табліца, з якой бачна, што цэны на тавары ў Беларусі былі ніжэй, чым у іншых рэспубліках.

Бласлаўленная Беларусь! Як танна ў нас усё... Было... Цяпер нават тое, чаго ў нас хапае, выраўняецца ў цэнах з іншымі рэгіёнамі. Цісне залежнасць, а ўрад рэспублікі, наколькі можна адцягваючы павышэнне цэн, у канчатковым выніку ўсё ж павінен пайсці на такія жорсткія меры. Інакш і ў нас нічога не застанецца. Вывезуць. Элементарна.

Але, хоць на прылаўках хапае харчу, у халадзільніках нягуста. У першым паўгоддзі 1992 года ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага продаж мяса скараціўся на 34 працэнты, мясных кансерваў – на 42, каўбасных вырабаў – на 5 працэнтаў. Масла пачалі набываць менш на 3, алею – на 4, малочнай прадукцыі – на 9, яе: – на 18, цукру – на 21 і хлебабулачных вырабаў на 6 працэнтаў. Народ пачаў менеі есці... Ці можа, менеі выкідаць у смеццеправоды? На мой погляд, больш адпавядае рэчаіснасці першае, чым другое. Што ж датычыць спажывання садавіны і агароднiны, дык яно таксама значна паменшылася. Так, у чэрвені продаж ранняй бульбы склаў усяго 6 працэнтаў да ўзроўню мінулага года, капусты – 56, агуркоў – 65, памідораў – 48, цыбулі – 6 працэнтаў. Вось гэтае ўжо страшна. Калі людзі пачынаюць спажываць менш вітамінаў, недалёка да выбуху ўсемагчымых хвароб... Суцяшаюць, праўда, звесткі, што ўсё больш садавіны-агароднiны трапляе на стол беларусаў з уласных сотак, кавалачкаў зямлі, кожны квадратны сантыметр якой дагледжаны на Беларусі, у адрозненне ад многіх іншых рэгіёнаў былога Саюза. На гарадскіх рынках продаж агароднiны павялічыўся на 39 працэнтаў, а садавіны і ягад – на 56 працэнтаў. Але колькі гэта каштуе!

У адносінах да снежня мінулага года рознічныя цэны на тавары і паслугі павялічыліся ў 5,5 раза, а сярэднемесячная зарплата толькі ў 3,8 раза. Гэтыя лічбы на працягу года ваганіся, але ні ў адным месяцы рост зарплаты не паспеў за ростам цэн. Так што можна з поўным правам гаварыць аб зніжэнні жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Гэта адбываецца ва ўмовах адноснай стабільнасці ў працоўнай аддачы людзей. Аб гэтым сведчыць тое, што на душу насельніцтва ў рэспубліцы створана тавараў народнага спажывання на 12971 рубель (для параўнання па СНД – на 9500, у Расіі – на 9980, на Украіне – на 7887, у Казахстане – на 4823, ва Узбекістане – на 2777 рублёў). Нягледзячы на такія лічбы, для аптымізму падстаў няма. Па харчовых таварах аб'ём вытворчасці знізіўся на 21 працэнт. У прамысловасці на 10 працэнтаў скарацілася вытворчасць тканін, на 16-дываноВЫХ вырабаў, на 8,8 – пасцельнай бялізны, на 14,3 – абутку. У асноўным прычына гэтага – недахоп сыравіны. Але і падзенне попыту таксама адыгрывае ролю.




Тая ж сітуацыя і ў вытворчасці тавараў групы "А", як гэта называлася раней. Да ўзроўню мінулага года вытворчасць электрарухавікоў склала 36 працэнтаў, трансфарматараў – 51, металарэзных станкоў – 89, ліфтаў – 67, бульдозераў – 57 працэнтаў. З-за недапаставак рухавікоў на 18 працэнтаў паменшылася вытворчасць грузавых аўтамабіляў, на 2,6 працэнта – трактароў, напалову знізілася вытворчасць кормаўборачных камбайнаў. З-за незабяспечанасці матэрыяльнымі рэсурсамі спыняліся, прастойвалі прадпрыемствы, пры чым страты працоўнага часу склалі 2 мільёны чалавека-дзён, на 14 мільярдаў рублёў недададзена прадукцыі.

Але не толькі чорны колер зняе са старонак зводкі Дзяржкамстата рэспублікі. Амаль што на мінулагоднім узроўні знаходзіцца выраб тавараў культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння. Павялічылася вытворчасць пральных машын, фотаапаратаў, мэблі. Халадзільнікаў і лядоўняў выраблена 364,4 тысячы, магнітафонаў – 105,4 тысячы, каляровых тэлевізараў – 439,9 тысячы, 7,3 мільёны гадзіннікаў, 374,2 тыс. веласіпедаў, 83,7 тыс. матацыклаў. Праўда, не такія жыццёва важныя тавары, але XX стагоддзе адвыкла ад свечак ды двухколак...

Нягледзячы на доўгія размовы аб прыватызацыі, і цяпер у прамысловасці асноўнай формай уласнасці застаецца дзяржаўная. На яе прыходзіцца 85,7 працэнтаў колькасці працоўных і 84,8 працэнта агульнага аб'ёму вырабу ўсёй прадукцыі. Разам з тым набіраюць абароты сумесныя прадпрыемствы. На 1 ліпеня іх зарэгістравана 142. Напрыклад, сумесным прадпрыемствам "Белвест" у першым паўгоддзі бягучага года выраблена 1056 тысяч пар абутку на суму 932,5 мільёна рублёў. СП вырабілі 14,1 працэнт агульнага аб'ёму прадукцыі, у іх сферы занята 146,8 тыс. чалавек.

Карціна развіцця гаспадаркі не будзе поўнай, калі не ўзгадаць памеры даходаў прадпрыемстваў. У параўнанні са студзенем-чэрвенем мінулага года прыбытак у прамысловасці вырас у 9 разоў, а аптовыя цэны на прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння павялічыліся за той жа перыяд у 15,6 раза. Паводле даных дзяржаўнай падатковай службы, у першым паўгоддзі ў бюджэт паступіла 73,6 мільярда рублёў падаткаў. З гэтага падатак на прыбытак складае 18,4 мільярда рублёў. Пры дэфіцыце бюджэту ўрадам знойдзены магчымасці толькі ў апошні час выдзеліць на патрэбы сацыяльнай падтрымкі насельніцтва 5,6 мільярда рублёў.

У галіне капітальнага будаўніцтва аб'ём інвестыцый скараціўся на 22 працэнты (па Украіне – на 45, у Расіі – на 46, Казахстане – на 48 працэнтаў). У жыллёвае будаўніцтва ўкладзена 11,3 мільярда рублёў, пабудавана 20,3 тысячы кватэр агульнай плошчай 1318 квадратных метраў. Увод жылля паменшыўся на 31 працэнт (па Расіі – на 34, Украіне – на 15, Казахстану – на 32, Узбекістану – на 53 працэнты).

Знешнегандлёвы абарот Беларусі склаўся ў памеры 577,4 мільёна даляраў ЗША. Экспарт склаў 389,5 мільёна, імпарт – 187,9 мільёна даляраў.

Што вынікае з вышэйпрыведзеных лічбаў? Па-першае, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што першае паўгоддзе 1992 года беларусы пражылі трошачкі лепей, чым іхнія былыя суграмадзяне. Можа, людзі нашыя не настолькі разбучыліся працаваць, можа, адносны эканамічны спакой грунтаваўся на спакоі палітычным, але факт застаецца фактам: сярод мора бязладдзя наша рэспубліка была востравам. І накіроўваліся да гэтага вострава караблі іншых дзяржаў, зрывалі какосы, што раслі на беларускіх пальмах... Пакуль праваДыры вострава не вырашылі падняць кошт на гэтыя какосы. Не зважаючы на інтарэсы яго карэнных жыхароў. Вядома, я далёкі ад думкі, што павышэнне цэн – вынік толькі "эканамічных дыверсій". Бясконца трымаць на датацыі сельскую гаспадарку немагчыма, тым больш, што аб'ём прамысловасці падае і паступленні ў дзяржаўную скарбонку памяншаюцца.

На эканамічныя пертурбацыі імгненна адрэагавалі структуры, якія маюць дачыненне да валюты. Даляр неўтаймавана пабег уверх, і зараз яго можна дагнаць хіба толькі на 180-рублёвай прыступцы. Штучнасць такога курсу відавочная, але, калі ўлічыць узрастаючую слабасць рубля, можна рабіць прагнозы аб тым, што даляр (а разам з ім і ўся СКВ) будзе расці і надалей.

Сумна, канешне. Радасна за Беларусь, але й радасць гэтая нейкая ненадзейная...

Падрыхтаваў
Алесь Палынскі.

| | Мінск | Масква | С.-Пецярбург | Вільня | Кіеў |
|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 52-98 | 80-50 | 84-07 | 73-14 | 110-00 |
| Ялавічына | 53-77 | 65-50 | 83-94 | 65-70 | 86-00 |
| Масла | 77-90 | 212-50 | 180-40 | 150-87 | 200-00 |
| Малако | 2-86 | 8-00 | 8-60 | 8-40 | 19-00 |
| Алей | 29-71 | 33-00 | 60-92 | 102-26 | 8-10 |
| Цукар | 28-49 | 73-00 | 67-81 | 28-94 | 7-70 |
| Хлеб пшанічны | 9-40 | 26-00 | 9-38 | 7-04 | 5-20 |
| Хлеб аржаны | 4-16 | 9-78 | 9-80 | 5-91 | |

## Увага! Прэзентацыя новай старонкі "ЧЗ".

**"Дыягенава бонда" — паласа для выбухаў думкі і плыняў свядомасці; для ўсіх маладых "мудрацоў" — прадстаўнікоў філасофскай школы Беларусі. "Дыягенава бонда" шукае сваіх чытачоў і аўтараў. Спадары, прагавітыя не да лёгкай чытанкі, павярхоўных вынёскаў і хуткаспелых меркаванняў! Спадары — аматары памудрагеліць і тыя, хто "працуе філосафам"! Усе, хто мае ці хоча мець філасофскі, паглыблены роздумам светапогляд, (нават сёння, пад час эпохі "хлеба надзённага"), каго, нягледзячы на панаванне кілбасы, хвалююць адвечныя ісціны і праблемы быцця!**

**"Дыягенава бонда" чакае вашай увагі і вашых допісаў.**

**Такім чынам, запрашаем у "Дыягенаву бонду" № 1.**




Да межаў гераічнага, падчас, сягае намаганне матэрыялізаваць літаратурныя задумы. Толькі тады, паміж "нічым" і "ўсім", паўстае сапраўднае тлумачэнне высноў твора... "Некалькі згадак", — вязанка апавяданняў на пачатку кнігі А.Наўроцкага "Валун", — інтрадукцыя, псіхалагічны і тэкставы сэнс якой у стварэнні гістарычных перспектыў. "Верставыя слупы" гэтай перспектывы ў кнізе — асобы нашай гісторыі: Вітаўт, Доўмант, Міндоўг, Ягайла, Бірута, а яшчэ проста Даніла і Эміля, а яшчэ — магістр тэўтонскага ордэна Ульрык фон Юнгінген. Валун — сымбаль перакрыжаванняў іхніх жыццёвых шляхоў, бязмоўны збіральнік клятваў, малітваў, плачаў... Валун — нямы вяшчун, у замураваным голасе якога схаваны ключ да асэнсавання твора.

Маўчанне Валуна, здаецца, ёсць сымбаль стану памяці. Але чыёй? Так атрымліваецца, калі ўявіць сабе каменную глыбу ў якасці акумулюючай сілы. Дык пра што так упарта маўчыць у кнізе пісьменнік?

Круты паварот: на змену гістарычна-псіхалагічнаму "падарожжу"-інтрадукцыі аўтар прапануе геаграфічнае асэнсаванне сымбалю Валуна (апавяданне "Іпа"). Ад касмічнага: "Шырока размахнуўся Атлантычны акіян..." і далей унутраны погляд чытача слізгоча да гэтай беларускай кропкі на мапе, да пахаў роднай зямлі... Дзіўна і нязвыкла, калі ўлічыць год выдання — 1976!

Чарговая прыступка — "падарожжы" ў часе. Вось у тэксце мільганула незнаёмае слова "кок-сагыз". Больш маладыя, напэўна, у слоўнікі зазірнуць. А вось старэйшыя чытачы адзначаць гэтае слова як сымбаль, але ўжо пэўнага часу...

Так складаная для чытача форма літаратурных паралеляў штурхае нашае эмацыянальнае і падсвядомае да працы, да сінтэзу нашых першых уражанняў. Чым далей, тым болей пластоў тэкставага сінтэзу. Гэтая праца нараджае ў чытача "фенаменалагічны зрок", які дапамагае зазірнуць у тое мінулае душой пісьменніка, але не страчваючы пазіцый сучасніка. Гэтым зрокам адзнакі пэўных з'яў змяшчаюцца, а сымбалі разгортваюць свой патаемны сэнс.

Далей — біяграфічнае. Дзяцінства галоўнага героя кнігі — Алеся, бацькі-настаўнікі, рукапісны часопіс з допісамі толькі для Яе, першыя лісты ў рэдакцыю, каб Яна ўвагу звярнула... Канешне, потым пра гэта скажуць: "станаўленне маладога пісьменніка..." альбо яшчэ больш "навукова": "генезіс пісьменніцкага светапогляду". Але тут усё проста, гэта — нітка з клубка жыцця Алеся.

Кот, які штурхае клубок нітак, — вядомы Алесю сюжэт татуіроўкі на руцэ "мондрага" дзеда Астапа, па мянушцы Дрыгавіч. Дзед — аднавясковец Алеся, а той ужо студэнт -фармаколаг. Які кірунак маюць іх узаемаадносіны? Калі выхаваўчы, дык і гэтага трохі ёсць. Можа пабуджальныя? Але Алеся не назавеш бяздзейным... Іх узаемаадносіны — фармі-руючыя (сінтэз: "форма"-"кіруючыя") Чалавека.

Ды што азначае сцэна пазнавання (успамінаю арыстоцелеўскую функцыю гэтага літаратурнага дзеяння) у моргу па татуіроўцы памёршага дзеда Дрыгавіча? Як тут не прыгадаць распазнаныя рубцы на назе Адысея-Уліса... Цела дзеда Дрыгавіча, які жыў у тым часе, дзе кажуць "кухвайка", студэнта-фармаколага прымушаюць распластоўваць сваімі рукамі! І вось вынік — пазачасовае "к/з" пры спробе фізічнага пранікнення ў іншае "я" — страта прытомнасці. А гэта, як вядома, і ёсць абаронная рэакцыя асобы супраць забойства асабістага "я" ў выніку такога апакаліпсісу.

Можа гэта таксама сымбаль? Але ж такі жудасны! Сваімі рукамі...

Неверагодна, як сярод дзіцячых успамінаў аб першым каханні ўсплываюць прыклады самавітай душэўнай працы. Вось яго першыя спробы самапазнання: "Чаму я такі? Чаму, як помню сябе змалку, дзеці кусалі мяне самымі куслівымі мянушкамі? Чаму..." Напэўна, не трэба згадваць тут пра комплекс непаўнацэннасці, з якога потым вырастае экзістэнцыяльнае разуменне абсурднасці чалавечага існавання. Няма такіх людзей, якія б у свой час гэта не перажылі.

Але ў якім фармалістычным рэчышчы гэта фіксуецца? Ну хоць бы вось гэты прыклад: "Крэсла падбівае: "Ну-ну, пабачым, хто асмеліцца ўшаванаць мяне!" А хто з сённяшніх "мадэрністаў" асмеліцца вось так "па-роб-грыйёўску" зірнуць на літаратурны соцыум? А якое дакладнае разуменне метадалогіі літаратурнай "плыні свядомасці" і яе асацыятыўнай прыроды! Не многія з сучаснікаў-літаратараў, якія для моды звяртаюцца да "плыні свядомасці", усведамляюць глыбінную прычынна-выніковую сувязь метаду, адыходзяць ад прынцыпу: "вярзі-што-папала!" Тут жа зусім іншы ўзровень мыслення. Не вышэйшы, не ніжэйшы...Проста зусім іншы — тэкставы.

Нягледзячы на нясталасць псіхічнага жыцця Алеся, у яго асноўная і шмат каму незразумелая жыццёвая якасць — матывацыя. Яна дае магчымасць пазбегнуць душэўнага хаосу і перарастае ў якасць літаратурную.

Зразумела, што стан Алесевага ўспрымання свету яшчэ ў развіцці. Гэта адбіваецца і на яго літаратурным эквіваленце — на тэксце кнігі "Валун". Але праект ягонай асобы ўжо выразна акрэслены. Ён запаўняецца вельмі цікавымі літаратурнымі падрабязнасцямі, абвастраецца літаратурнымі паталогіямі. Сапраўды, ці не трэба разглядаць фармалістычныя пошукі як паталагічныя, зразумела, адносна існуючага законнага, спрошчанага падыходу да скарбонкі душы пісьменніка — псіхікі?

А пакуль Алесева "гэта" яшчэ фарміруецца ў беспярапынным канфлікце з банальным, пісьменніцкі праект яго сцвярджае сябе прарывам праз банальнасць у вобласць трагічнага. Вось "пікавы" эпізод: састарэлыя Марыя і Анэта скардзяцца на свой лёс. Анэта страціла сына, Марыя — мужа: "Не вярнуліся з вайны, і некаму ўзяць загрудкі брыгадзіра і абтрэсці з яго ўсе гузікі, вытрасці з яго той блакнот, куды ён забывае ўпісаць працадні!"

Сам па сабе лёс сялянскіх жанчын тут трагічны. А ў механіцы юнацкіх парываў, комплексаў такое "затрыманне погляду" на трагічным носіць крышталізуючую, адносна нясталага псіхічнага, функцыю. Кульмінацыя твора і ў ім — сталасць маладога пісьменніка.

Дык чаго ж тады сымбаль Валун? А можа само пытанне змяніць графічна: "Дык чаго ж тады сымбаль "Валун"? З часоў Р.Барта чытачы зразумелі магчымасці гэтых графічных адзнак — двукоссяў! Цяпер усведамляю, што кніга А.Наўроцкага — люстэрка стану пісьменніка, сховішча яго. Ды пра што маўчыць "Валун" — кніга Алеся Наўроцкага? Дык што рыхтуе праект п'сьменніка? Пытанні...

### МАРГІНАЛЬНЫ P.S.

*як жыў я без солі...*
*Анатоль Сыс. З ахвяравання*
*Алесю Наўроцкаму. "Пан Лес".*

Маргіналіі — памеціны на палях кнігі, якія змяшчаюцца на іх пад час чытання. Для памяці. Так тлумачаць сэнс гэтага слова ўсе слоўнікі. Вытворнае ад яго — панятце "маргінальнага аналізу", г.зн. супрацьлеглага цэнтральнаму, дамінуючаму. Спробай па-новаму асэнсаваць гэтае філасофскае словазлучэнне і тлумачу сам сабе я з'яўленне літаратурных "Маргіналій". Па сутнасці, маргінальны аналіз — чыста суб'ектыўны аналіз "у сабе". Яго методыка адрозніваецца ад прывычнай, ад метаду, так бы мовіць, звычайнага. Апошні не выключае нават статыстычных метадаў. Напрыклад, можна падлічыць у кнізе колькасць "карэнных" паэтычных слоў. Скажам, атрымаецца, што больш за ўсё ў паэзіі аўтара X сустракаецца слоў "любоў" і "Радзіма". Вось гэта і будзе высновай для сцвярджэння, што паэт X любіць Радзіму і апявае яе ў сваіх творах. Маргінальны ж падыход шукае інтэлектуальныя "пікі", паэтычныя і эмацыянальныя "эверэсты". Калі традыцыйны крытычны метад — своеасаблівае "пусканне крыві" думкам творцы, то маргінальны — стварае сваю аўтаномную псіхалагічную канцэпцыю і інтэрпрэтацыю твораў, якая з гэтай канцэпцыі вынікае. Апісвае ўнутраныя званочкі, якія адгукнуліся на той ці іншы літаратурны "пік". Яны — метафарычна — як соль, пра якую згадвае А.Сыс у сваім вершы да А.Наўроцкага.

Сапраўды, было цікава ўслухацца ў званочкі сваёй душы пад час чытання твораў А.Наўроцкага. Так з'явіліся маргіналіі на паперы, а потым і "Маргіналіі", як спроба крытычнага матэрыялу. Праца над імі дапамагла мне больш уважліва зірнуць і на лёс пісьменніка. Нагадаю толькі адзін "паваротны пункт" яго. Самы прадуктыўны для разважанняў. Пасля выхаду ў свет кніг паэзіі А.Наўроцкага пісьменнік пакідае СП БССР, на час адыходзіць ад пісьменніцтва...

Зацікаўленыя яго творчасцю і сёння спрачаюцца пра яго лёс, усе называюць яго таленавітым пісьменнікам.

Аўтару ж гэтых радкоў гэтыя акалічнасці лёсу шмат у чым нагадалі лёсы аўстрыйскага філосафа О.Вейнінгера (аўтара адзінай прыжыццёвай кнігі "Секс і характар") і нашага беларускага крытыка С.Палуяна, 100-годдзе якога адзначылі ў 1990 годзе (спадчына крытыка месціцца ў невялікай кніжцы "Лісты ў будучыню"). Рытарыстычнасць іх, якая нараджалася ў процістаянні сваёй рэчаіснасці, паставіла іх на шлях самагубства, штурхнула іх за трагічную мяжу. А іх этычны рыгарызм — немагчымасць жыццёвых функцый па-за сваёй філасофіяй — асабістая якасць, якая адбілася і на іх творах. Гэтыя творы, разам са сваімі творцамі, пераступілі тую мяжу, за якой паўстаў іх новы Сэнс... Маўчанне аб'ядноўвае гэтыя асобы. Маўчанне, як творчы акт, замаскіраваны за скупымі радкамі друкаванай спадчыны.

Калі Вейнінгер і Палуян — героі тагачаснай "бесчасовасці" ва ўсім трагізме іх постацей, то А.Наўроцкі спрабуе выкарыстаць свой шанс — змагаецца з "бесчасовасцю", спраўджвае жыццёвы і творчы праект трохі далей ад мяжы трагічнага.

Усім, хто хоць калі бачыў сваё слова аддрукаваным, знаёмае пачуццё перамены яго грамадскай вагі ў параўнанні з рукапісным варыянтам. Містыка? Не. Улік яго камунікатыўнасці і ўключанасці ў дынаміку грамадскай думкі. Наступная прыступка, якая надае Слову яшчэ большы кошт, гэта яго жыццёвае пацвярджэнне. Не таму мы сёння з асаблівай увагай учытваемся ў "Лісты ў будучыню" Сержука Палуяна? Да нас прыходзіць падсвядомае ўсведамленне таго, што крытык ведаў "сакрэт" Адраджэння і сваім нашчадкам акрэсліў яго сваім лёсам.

А вось прыклад нашага часу. Творчасць Д.Д.Сэлінджэра стала сапраўдным філасофскім вучэннем амерыканскай моладзі толькі пасля сцвярджэння яе сваімі ўчынкамі, пасля надыходу "эры маўчання" Сэлінджэра.

Значыць, Наўроцкі — наш беларускі Сэлінджэр? Не хацелася б так ставіць пытанне... Дый мастацтва ўзняць пытанне яшчэ з часоў Пруста і Музіля, Джойса і Канеці каштавала значна вышэй, чым рэцэпт адказу на яго. Таму толькі імкнуся ўсвядоміць, што жыццёвыя і філасофскія пошукі і іх вынікі толькі сцвярджаюць альбо абвяргаюць правільнасць высноў творчасці. Кожны творца пракладвае свой шлях, адведзены яму. Тым ён і каштоўны. І не трэба адразу ўсім маладым і сталым пісьменнікам, якія жадаюць крочыць у тую трансцэндэнтальнасць, адразу кідацца ў маўчанне, кідаць пісьменніцтва. Больш прадуктыўна сваю творчасць сцвярджаць этычна, кожным крокам свайго жыцця. Творчасць і жыццё Вейнінгера, Сэлінджэра, Палуяна — не толькі грамадскі ўчынак, але і прыклад экстрэмальнага разумення гэтага закона.

Дык пра што маўчыць Алесь Наўроцкі? Асабіста мне гэтыя практыкаванні ў выглядзе "Маргіналій" далі некаторыя пункты для таго, каб звярнуць увагу чытача вось на якую акалічнасць. У кнізе А.Наўроцкага недвухсэнсоўна звяртаецца ўвага на тое, што галоўны герой марыць напісаць сваю Галоўную кнігу. Але чытач ужо трымае ў руках яе друкаваную "папярэдніцу". Такая пазачасовая запраграміраванасць пісьменніка дзіўная толькі на першы погляд. Толькі аўтабіяграфізм яго дае магчымасць ствараць твор з марамі пра няздзейсненыя яшчэ праект. Але калі ўдумацца, дык менавіта гэтым прустаўскім прыёмам пісьменнік праз гады гаворыць чытачу: "Сёння — маўчанне! Але галоўнае наперадзе".

Творчы праект Алеся Наўроцкага патрабуе лагічнага працягу.

**Анатоль Мяльгуй,**
**аспірант Інстытута**
**філасофіі АНБ.**

# ПРЫЎКРАСНАЯ ДАМА СЯРЭДНЯВЕЧЧА



Анна Яраслаўна. Сярэдневяковая гравюра.

Яе лёс выдаўся незвычайным, жыццё — бурным. Гэта было прадвызначана Анне яшчэ пры нараджэнні. Бо атрымала яна ад бабкі сваёй даволі небяспечную спадчыну — прыгажосць, якая прымушала ўсіх навакольных страчваць галаву. Такім жа дарам адзначыла Рагнеда і іншых сваіх нашчадкаў па жаночай лініі. Яе дочкі былі захоплены ў палон звар'яцелым ад кахання польскім каралём Баляславам, рукі ўнучак дамагаліся манархі ўсіх суседніх да Русі дзяржаў. Анна нарадзілася ў 1024 годзе. Яна была сярэдняй дачкой сына Рагнеды, Яраслава Мудрага і, паводле сведчання сучаснікаў, самай звычайнай сярод іх. Яна значна прайгравала знешне, знаходзячыся побач з золатавалосай і каравокай Лізаветай Яраслаўнай. І нават малодшая сястра, Анастасія, больш прыцягвала прагныя да дзявочай красы вочы. Анну псавала тое, што валасы яе былі рудымі. Такую разгадку падказалі дзве старажытныя каляровыя гравюры, зробленыя для калекцыі французскага караля паводле прыжыццёвых апісанняў Анны. Магчыма, з-за гэтага разбалаваныя незвычайнай прыгажосцю яе сёстраў і цётак суседзі Русі пакінулі без увагі рудую Анну.

Якім жа чынам позірк французскага манарха спыніўся на дачцэ Яраслава? Не трэба цешыць сябе ілюзіямі наконт вялікай палітычнай выгады для Францыі заключэння такога шлюбу. На жаль, многія ўсходнеславянскія даследчыкі дапускаюць такую памылку ў сваіх работах. У манаграфіі французскага гісторыка XIX стагоддзя графа дэ Ке дэ Сэнт-Эмура, выдадзенай у Львове ў 1909 годзе, ёсць сапраўднае тлумачэнне.

Сэнт-Эмур піша: "Пад уплывам страху, абуджанага надыходам тысячнага года нашай эры, які народныя забабоны здаўна абвяшчалі фатальнай датай канца свету і страшнага суда, адзінаццатае стагоддзе пачалося абвастрэннем набожнасці".

Царква выкарыстала гэта ў сваіх мэтах. Клерыкалы аб'явілі, што ў прадказанне трапіла памылка, і што канец свету адбудзецца на некалькі гадоў пазней. Уся Заходняя Еўропа пачала актыўна змагацца за выратаванне ўласных душ. Гэта дало магчымасць святарам распачаць барацьбу з такім сацыяльным злом, як кровазмяшальныя і блізкароднасныя сувязі манархаў, якія прыводзілі да з'яўлення хворага пакалення і вельмі ўплывалі на маральны стан грамадства. У прыватнасці, папа Рымскі забараніў заключаць шлюбы паміж сваякамі да сёмага калена.

Кароль Францыі Анры І трапіў з-за гэтага ў вельмі цяжкае становішча. У 1044 годзе ён аўдавеў. Нябожчыца не пакінула яму сыноў, і, значыць, трэба было ажаніцца зноў. Але дзякуючы каралеве, якая была дачкой нямецкага імператара Генрыха II, павязанага сваяцкасцю з усімі правячымі дамамі Еўропы, для Анры І аказаліся недаступнымі ўсе еўрапейскія прынцэсы, па ўзросту падыходзячыя да шлюбу.

Кароль ужо быў у роспачы, калі нехта з прыдворных паведаміў яму пра тое, што дзесьці "недалёка ад Візантыі" ў князя дзікай Русі, здаецца, яшчэ засталася адна дачка. І, кажуць, знешне даволі прывабная. Анры І згадзіўся б нават на непрыгожую нявесту, толькі б яна была аднаго з ім сацыяльнага становішча і належала да хрысціянскага веравызнання. Ён папрасіў паказаць яму на карце княства Яраслава. На жаль, каралеўская карта Еўропы канчалася недзе ў Польшчы, а карта Азіі ледзь захоплівала землі, што межавалі з Візантыяй. Праўда, прыдворны вучоны запэўніў Анры, што ў рускай князёўны славутыя продкі, і што яе дзед Уладзімір для русінаў усё роўна, што для французаў Карл Вялікі. Уздыхнуўшы, кароль рашыўся сватацца да Анны.

Вядома, што пасольства яго, якое ўзначальваў міністр двара Гасэлен дэ Шавіньяк і епіскап Гацье Саваяр, было накіравана ў Кіеў у пачатку 1048 года. Сябры і блізкія праводзілі іх са страхам і слязамі. Шлях уяўляўся доўгім і поўным небяспекі. Варварская Русь палохала. Магчыма, таму сваты караля не вельмі спяшаліся дасягнуць мэты сваёй вандроўкі. Трэба думаць, спыняліся яны ў кожнай больш-менш прыстойнай карчме, у кожным сустрэчным рыцарскім замку. У выніку ў сталіцу Яраслава Мудрага трапілі гэтыя доблесныя мужы толькі ў 1049 годзе. Але тое, што пабачылі яны там, невыказна ўразіла іх. Кіеў аказаўся



Скульптурны партрэт Анны ў абацтве г. Сан-Ліс

вялікім прыгожым горадам, Яраслаў — шырокаадукаваным хрысціянскім правіцелем, Анна — прыгожай маладой жанчынай. Яшчэ большыя эмоцыіі выклікаў пасаг князёўны — візантыйскія залатыя манеты, старажытныя ўпрыгажэнні і каштоўны камень гіяцынт вялікага памеру і чысціні. Перагаворы і дарога ў Францыю занялі значна менш часу. У маі 1049 года Анна ўрачыста ўехала ў Парыж. У тым жа месяцы ашалеўшы ад радасці Анры І абвянчаўся з рудавалосай кіеўскай прыгажуняй.

Паміж даследчыкамі і дагэтуль шырока бытуе легенда пра тое, быццам Анна, нават стаўшы каралевай Францыі, прытрымлівалася праваслаўнай веры. Быццам бы з Кіева яна прывезла з сабою святара, і для ўласных рэлігійных патрэб Анны ў Парыжы была пабудавана праваслаўная капліčка. Але ж, калі зазірнуць у гісторыю, становіцца зразумела, што Анна не магла адчуваць у гэтым патрэбу.

У год, калі яна была аддадзена замуж, раскол паміж цэрквамі Рымскай ды Грэчаскай яшчэ не быў такім моцным. Існавалі істотныя адрозненні ў абрадах і тлумачэннях веры, але сувязі паміж святарамі абодвух хрысціянскіх накірункаў не перарываліся. Трагедыя разыгралася ў 1054 годзе, калі моцна пасварыліся папа Леў IX і патрыярх Канстанцінопальскі Міхаіл Керулярый. Хрысціян раздзялілі і размежавалі. І пасля гэтага году не так ужо лёгка было б набожнаму французскаму манарху атрымаць дазвол царквы на шлюб з праваслаўнай нявестай. Але Анна ў час разрыву гэтага была ўжо жонкаю і маці. Яна стала каталічкай аўтаматычна.

У розных крыніцах сустракаем мы яшчэ адну легенду — пра тое, што Анна восем гадоў не магла нарадзіць дзіця. Спалохаўшыся свайго бясплоддзя, каралева дала абяцанне Богу, што пабудуе абацтва, калі ён пашле ёй сына. Але, супастаўляючы даты жыцця Анры І і яго сыноў ад Анны, можна смела сцвярджаць, што легенда не адпавядае рэчаіснасці. Сапраўды, некаторы час дзяцей у каралеўскай пары не было, і, сапраўды, Анна дала абяцанне. Але дзіця ў яе нарадзілася значна раней. Украінскі гісторык В.М.Рычка называе 1053 год. Свайму першаму сыну Анна дала імя Філіп. У многіх французаў гэта выклікала здзіўленне. Імя было вельмі рэдкім і нязвыклым. Але Анна настаяла на сваім, растлумачыўшы мужу, што дае яго ў гонар Філіпа Македонскага, бацькі славутага Аляксандра. Ад гэтага Філіпа лічаць сваю радаслоўную візантыйскія імператары. А дзед Анны Уладзімір парадніўся з імі. Значыць, Філіп Македонскі і яе, Анны, прашчур.

Дзесьці праз год каралева парадавала сваіх падданых яшчэ адным сынам, Рабертам. Потым нарадзіўся Гуго... І тады Анры І сур'ёзна занепакоіўся. Ніколі яшчэ французскія каралевы не нараджалі так часта. Такая пладавітасць пагражала беднасцю малодшым каралевічам. Бо тэрыторыя тагачаснага французскага каралеўства тады абмяжоўвалася памерамі невялічкага герцагства, а сам кароль толькі фармальна лічыўся галавой дзяржавы. Але Анна не падзяляла боязі мужа і ўсё часцей напамінала яму пра неабходнасць выканаць дадзенае абяцанне, пакуль Анры І рашуча не заявіў, што Бог не атрымае абяцанага. Францыі хопіць ужо каралевічаў!

У 1060 годзе кароль Анры І памёр. І Анна надоўга апранулася ў белае. Белы колер — колер жалобы для каралёў. Каралева-ўдава ў сярэдневяковай Францыі павінна была апранацца да самой смерці ў белую сукенку і хаваць пад белым пакрывалам валасы.

Каралём пасля смерці Анры быў абвешчаны сямігадовы Філіп. Рэгентам афіцыйна стаў брат Анры І Бодуэн V, граф Фландрыі. Але фактычна кіраўніцтва дзяржавай перайшло да каралевы. Анна выбрала для сваёй рэзідэнцыі стары замак у мястэчку Сан-Ліс, недалёка ад Парыжа. Вакол была вельмі прыгожая прырода і вялізныя паляўнічыя ўгоддзі. У Сан-Ліс прывезла каралева і ўсіх сваіх сыноў. Там яна займалася палітыкай, наладжвала аўдыенцыі, вяла дзелавую перапіску з моцнымі свету гэтага.

Ля Сан-Ліса Анна і вырашыла пабудаваць абяцанае Богу абацтва. Яна прызначыла яго манашкам-аўгусцінкам, якія, дарэчы, аказаліся вельмі ўдзячнымі. Абацтва праіснавала да XVIII ст. — ажно да Вялікай Французскай рэвалюцыі. І кожны год у дзень смерці сваёй фундатаркі манашкі адпраўлялі ўрачыстую імшу. А каб бедната ўдзельнічала ў свяце, прысвечаным памяці добрай каралевы, абатыса арганізоўвала бясплатны абед для трынаццаці ўбогіх удоў. Але палітыка і набожныя справы не забіралі ўвесь вольны час Анны. Яна любіла забавы і ўмела абладжваць іх. Балі, банкеты, паляванні змяняліся адно адным. Анна цудоўна трымалася ў сядле і рабіла доўгія конныя прагулкі па наваколлі. Ці не ў час адной з іх адбылося знаёмства каралевы з графам Раулем? Яго поўны тытул гучаў так: Рауль III Вялікі, граф Крэпі і Валуа, гаспадар Вэксена, Аліена, Бар-сюр-Аб, Вітры, Перокі і Мондзідзьера. Сваю радаслоўную ён пачынаў з Карла Вялікага і таму гонару ў яго было нават больш, чым калі б ён быў каралём. Сярэдневяковы храніст піша пра графа Рауля, што быў ён "самы магутны і самы незалежны з усіх магнатаў Францыі" і "не баяўся ані арміі караля, ані царкоўных громаў". Канешне, не заўважыць і не вылучыць сярод сваіх паклоннікаў такую асобу было вельмі цяжка. Павольна захапленне моцным, незалежным характарам Рауля перайшло ў Анны ў каханне. Граф Крэпі і Валуа лічыў сябе свабодным, бо жонку сваю Аліенору ён даўно ўжо прагнаў, пераканаўшыся, што тая здраджвае яму з іншымі мужчынамі. Трыццаціпяцігадовая ж каралева была ўдавой. Што магло перашкодзіць гэтым дваім кахаць адзін аднаго?! Вельмі хутка Анна паведаміла Раулю, што яна чакае дзіця. І тады адважны рыцар проста пасадзіў яе наперадзе сябе на каня і звёз "як звычайную пастушку" ў сталіцу свайго графства Крэпі. Там Анна скінула абрыдлую белую жалобную сукенку і пераапранулася ў рознакаляровыя шаўкі. А Рауль захапіў нейкага прычэтніка, якога ці падкупіў, ці запалохаў настолькі, што той згадзіўся абвянчаць закаханых.

Даведаўшыся пра ўчынак каралевы, якую ўсе шчыра шанавалі, французы ахнулі. Такое магла сабе дазволіць толькі сапраўдная варварка: абвянчацца з жанатым чалавекам, усяго толькі графам, ды яшчэ такім ганебным спосабам! Мінула зусім няшмат часу, і Анна нарадзіла Раулю дзіця. Францыю пачало ліхаманіць. Погляды ўсіх былі накіраваны на юнага караля, — як ён адрэагуе на гэта? Але Філіп аказаўся даволі мудрым падлеткам. Ён зрабіў выгляд, што нічога страшнага не адбылося. Але маці сваю, якая прамяняла каралеўскі тытул на графскі, усё ж адхіліў ад палітычных спраў. Магчыма, сыноўняя любоў Філіпа і выратавала б Анну ад усіх непрыемнасцяў, калі б не ўмяшалася пакінутая жонка Рауля, Аліенора. Яна паехала ў Рым да папы і там паскардзілася на мужа. Папа даслаў Раулю строгі загад: прыняць законную жонку, а каралеву адаслаць. Інакш Рауль будзе адлучаны ад царквы.

Але граф Крэпі і Валуа толькі пасмяяўся. Такія пагрозы яго не палохалі, бо ён быў пазбаўлены рэлігійнага страху. Анна па смеласці таксама аказалася дастойнай свайго каханага. Яны працягвалі жыць як муж і жонка да самай смерці графа (гэта здарылася ў 1074 годзе). Некаторыя французскія біёграфы выказваюць меркаванне, што перад смерцю Рауль адштурхнуў ад сябе жанчыну, якая прымусіла яго пайсці на такі страшны грэх. Але нешта не верыцца. Рауль быў перш за ўсё рыцар, які ставіў вышэй за ўсё іншыя — законы куртуазнасці, г.зн. пакланення прыўкраснай даме. Здабыча каралевы для яго была самым вялікім подзвігам. Нават перад смерцю ён не мог бы адмовіцца ад сваіх жыццёвых прынцыпаў.

Як бы там ні было, але пасля смерці Рауля Анне давялося шукаць прыстанак у Парыжы. Дзеці графа Крэпі і Валуа, Анніны пасынкі зрабілі ўсё магчымае, хаб "бессаромная русінка" пакінула іх уладанні. Філіп І прыняў маці даволі сардэчна. Пры яго двары яна атрымала ўсё набходнае. Раскоша, магчымасць зноў займацца палітыкай, ганаровае права прысутнічаць на ўсіх каралеўскіх нарадах і балях. Але былой павагі ў французаў да Анны ўжо не было. І яна гэта адчувала.

У 1075 годзе пяцідзесяцідвухгадовая Анна пакідае двор. І з гэтага моманту знікаюць усе звесткі пра яе. Даследчыкі раздзяляюцца ў думках, чым жа скончылася гісторыя рудавалосай каралевы. Адны сцвярджаюць, што Анна вярнулася на радзіму. Але гэта вельмі няпэўна. Па-першае, такая значная падзея для Русі не засталася б незанесенай у летапіс. Тым больш, што наогул дачкам Яраслава Мудрага "Аповесць мінулых гадоў" удзяліла шмат увагі.

В.М.Рычка ў кнізе "За літописним рядком" піша, што Анна памерла ў тым жа 1075 годзе і што пахавана яна ў царкве заснаванага ёю абацтва ў Сан-Лісе. Але французы сцвярджаюць, што труны Анны там няма і быць не можа. Справа ў тым, што пад час сумеснага жыцця з Раулем яна дабілася таго, каб абацтва гэтае, яе любімае дзецішча, перайшло ва ўладанне графаў Валуа. Пасля ж смерці Рауля абацтва стала ўласнасцю яго старэйшага сына, пасынка Анны, які ненавідзеў яе.

У XVII стагоддзі вучоны-езуіт Мэнестрые даследаваў склеп у храме абацтва Віліер у правінцыі Гатынуа. Ён сцвярджаў, што адна з трунаў належыць каралеве, якая была жонкай Анры І. Але гэта не першая яго жонка, Мацільда Германская, а другая. Доўгі час сумненні ў правільнасці такой гіпотэзы падтрымлівала толькі тое, што Мэнестрые называў каралеву Агнэсай. Гэтае імя было выбіта на труне. Але ўжо ў XIX стагоддзі ўдалося прааналізаваць цэлы шэраг дакументаў, падпісаных Аннай Русінкай. Сярод іх ёсць два, дзе каралева памылкова напісала не "Аnnа", а "Agnа". Верагодна, дзякуючы такой памылцы і ўзнікла міфічная Агнэса.

Як бы там ні было, французы сцвярджаюць, што Анна Яраслаўна памерла ў Францыі і пахавана ў Гатынуа. Там жа захаваўся і адзін з яе барэльефаў, зроблены сучаснікам каралевы. Другі, прыжыццёвы, знаходзіцца ў абацтве Сан-Ліс. На іх мы бачым жанчыну незвычайнай прыгажосці. Здаецца, быццам яна сышла са старонак славутага "Рамана пра Трыстана і Ізольду". І наведвае думка: калі такой была самая звычайная са спадчынніц Рагнеды, то якімі ж былі тыя, што лічыліся больш прыгожымі? І якой была сама Рагнеда? На жаль, сярод продкаў нашых у тыя часы не было партрэтыстаў. І таму адзінае ўяўленне аб красе жанчын гэтага роду мы можам атрымаць па выявах Анны, рудой дачкі Яраслава Мудрага, каралевы Францыі, прыўкраснай дамы сярэднявечча.

Ірына Масляніцына.

*У бібліятэцы французскага горада Рэймса сярод калекцыі старадаўніх кніг ды рукапісаў з вялікай любоўю захоўваюць шаснаццаць пажоўклых пергаментных аркушаў. Гэта ўсё, што засталося ад славутага Рэймскага Евангелля, святой рэліквіі, на якой на працягу некалькіх стагоддзяў прыносілі клятву вернасці свайму народу французскія каралі. Яна была неабходнай часткай абраду каранацыі, якая звычайна адбывалася ў Рэймскім саборы. Без змен абрад захаваўся да XIY стагоддзя, пакуль кароль Карл IV, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі, не звёз каштоўную кнігу на сваю радзіму, у Чэхію. У Францыі засталіся толькі шаснаццаць аркушаў. Так расказвае гісторыю Рэймскага Евангелля сучасны даследчык Л.П.Жукоўская. Але якое дачыненне мае да нас старая французская рэліквія, якая калісьці зрабіла такую дзіўную вандроўку? Адказ на гэтае пытанне дае расійскі гісторык мінулага стагоддзя А.Нечваладаў. Ён расказвае, як пад час сваіх паездак па Еўропе малады цар Пётр І завітаў у Рэймс, дзе яму з глыбокай павагай паказалі тое, што засталося ад свяшчэннай кнігі. "Гэта вельмі стары рукапіс, — сказалі французы. — Усе ведаюць, што аркушы належалі Евангеллю, але на якой мове было яно напісана — невядома. Магчыма, народ, што карыстаўся ім, ужо не існуе". Якім жа было здзіўленне субяседнікаў Пятра, калі малады цар "варварскай краіны" ўзяў аркушы ў рукі і пачаў даволі хутка чытаць. Рэймскае Евангелле было напісана на старажытнаславянскай мове. Належала яно французскай каралеве Анне Русінцы, якая ў Х стагоддзі прывезла яго ў Францыю ў якасці пасагу з далёкага Кіева. Каралева гэтая была дачкою Яраслава Мудрага і ўнучкаю полацкай князёўны Рагнеды.*



Сын Анны, праўнук Рагнеды Полацкай, французскі кароль Філіп І.

*Постаці літаратуры*



Лідзія ЛУКІЯНАВА

# ТВАЁ ІМЯ...

*Апавяданне*

Я раптам адчула, як нешта нябачнае, пяшчотна-ласкавае прытулілася да мяне. Яно праводзіла мяне да аўтобуснага прыпынку, а калі я села на мяккае сядзенне "Ікаруса", прымасцілася са мною побач. Пяшчотнае, ціхае...

Аднойчы ўжо было са мною такое, але ў сне. Я ніколі не насіла доўгіх валасоў. І наогул — баялася коней. А тут — сніцца мне дзяўчына-вершнік з доўгімі чорнымі валасамі... Ноч, шмат агнёў. Нейкае свята. Людзі спяваюць, танцуюць. Так, гэта ноч радасці. Свята ў гонар дня нараджэння сына Гаспадара. Мы ніколі не бачылі гэтага сына. А Гаспадар баяўся яго падпускаць да нас, жанчын у дрэннай вопратцы. І ўчора мы палолі ў полі нейкія расліны, што падымаліся з зямлі. Я не ведаю, што гэта за расліны, але ў мяне моцна баліць спіна і парэпаліся рукі. Я ведаю, што ніколі не кончыцца гэтая праца і гэтае поле... Нехта прымошчваецца да мяне, нябачны, чуйны, пяшчотны, і кажа: "Сёння можна ўсім пераапранацца ў любую вопратку, нават у вопратку Гаспадара". Далей — бачу тую самую дзяўчыну з доўгімі чорнымі валасамі. Яна скача на кані ў мужчынскай вопратцы. Мне ў твар б'е моцны шквал ветру. І раптам я разумею, што дзяўчына з чорнымі валасамі — гэта я...

У пячоры — зброя і ўсё астатняе, што падрыхтавана для ўцёкаў. Я ціхенька праходжу паўз пячорнае возера, калі раптам бачу мужчыну. Ён стаіць спінаю да мяне і пазірае на возера. І зноў — тое ж, нябачнае, шэпча мне: "Тут тайна яго нараджэння. Ніхто не павінен бачыць яго тут. Парушальніка чакае смерць". Я заўважаю, як да ног мужчыны падпаўзае змяя. Забыўшыся на ўсё, не зважаючы на страх, страляю. Змяя распадаецца на дзве часткі. Мужчына абярнуўся да мяне, узбуджаны, злы. Ён думае, што гэта я страляла ў яго. Я не бачу твару мужчыны, бо ён схаваны ў нейкай цемры, адно добра відаць штаны і высокія боты ды крыссе курткі, замшавай, аранжавага колеру. І тады я страляю другі раз па гадзюцы. І... прачынаюся.

Нейкі момант ляжу ў ложку пад уражаннем таго, што мяне не зразумелі — прынялі за ворага. Пасля ўспамінаю, што такія ж самыя сны ўжо бачыла раней. У першым сне я скакала на кані паміж хлопцам і дзяўчынай. Мы імчалі да пячоры, але не дасяглі яе. У другі раз — даскакалі. Я ўвайшла ў пячору і ўбачыла шмат старых даўніх кніжак. Пачала разглядваць іх і гартаць, як нехта нябачны шапнуў: "Уцякай хутчэй! Зараз прыйдзе Гаспадар. Яго імя..." Але той раз я забыла імя. А Гаспадар сапраўды прыйшоў. І зноў бачыла яго цьмяна. Твар — у мроіве, штаны і высокія боты, крыссе аранжавай курткі... Я прачнулася, бо збаялася гневу яго.

Во! Зараз гэтае нябачнае, пяшчотнае, ціхенька сядзіць недзе побач. І нічога не шэпча. Я стараюся ўспомніць імя таго, у высокіх ботах, але яно рассейваецца, не асэнсоўваецца. Яно нечым падобнае на шум ветру і шэпт лістоты ў дождж, на буркатлівы плёскат вады ў рачулцы. Так, я сама адчуваю, што Я н о дзесьці побач... Не баюся, не пужаюся, бо ведаю, што гэта ён, Гаспадар... Мяне палілі на вогнішчы, дзе — не ведаю, але я ўспомніла, што гэта яго рукі разбурылі вогнішча і забралі мяне да сябе. Вось адкуль помняцца высокія боты і колер курткі, што здаўся мне аранжавым ад вогнішча. Потым — мы плылі на караблі. І я памятаю колер яго белай кашулі і салёны марскі вецер. Вось чаму з дзяцінства я малявала мора і караблі. Гаспадар вёз мяне дахаты, да маіх бацькоў... Помню кавалкі і аскепкі карабля. А ён... хапаўся рукамі за камень, але рукі саслізгвалі, і валасы яго гойдаліся на хвалях, і крык узнімаўся над паверхняй вады... Ён знік, а я ўчапілася ў нешта чорнае і плыла далей.

Цяпер я так баюся вады, страшэнна баюся, хоць і ўмею плаваць. Калі была маленькай, нічога не баялася, бо ў мяне быў мой абаронца, сябар і дарадца... Той самы нябачны, пяшчотны. Я ведала, што ён мужчынскага роду, але не ведала, хто гэта быў. Так, ён мяне абараняў, гаварыў, куды трэба ісці, а куды — нельга, а потым знік... Можа, што я падрасла і думкі мае, і дзеянні сталі не падабацца яму? Ён знік, калі мне было 7 гадоў. Я тады пайшла ў першы клас. Сталі сніцца страшныя сны, але ніхто ўжо мне не дапамагаў. І вось — я ўжо двойчы адчула, што ён вярнуўся, мой Гаспадар. Я нават бачыла яго ў сне і чула імя яго...

Не, нікому, нікому не скажу пра цябе і ніколі не зраблю таго, што можа цябе пакрыўдзіць. Можа, ты прыйшоў, калі я звярнулася да Бога са словамі: "Дай мне магчымасць зрабіць дабро чалавеку, любаму чалавеку, таму, хто пакутвае і заслужыў гэтага. Дай мне магчымасць падарыць чалавеку радасць, вярнуць яму шчасце, усмешку... Любаму чалавеку".

Як добра, што ты, Гаспадар, вярнуўся. Вярнуўся і навучыў мяне рабіць дабро.

Вярнуўся абаронца мой дзеля таго, каб жыць побач са мною.



Станіслаў ШУШКЕВІЧ

* * *

Не варажыў на кветках, не гадаў,
Не рваў на лузе белыя рамонкі,
Калі гнялі мяне ці смутак, ці бяда,
Ляцела песня праўдзе наўздагонкі.

Не падпявалі, кпілі салаўі,
А ў горах рэха смешна рагатала,
Ніхто не знаў, што песняй боль гаіў,
Што мне прастору ў свеце нставала.

Без сполаху глядзеў заўжды усім у твар,
Не кланяўся я тым, хто меч узносіў сцята,
Хацелася згарнуць пасцілку шэрых хмар,
Калі было святла на свеце малавата.

## Наша анкета

1. Чым жывеш сёння? Што лічыш патрэбным дзеля таго, каб сцвердзіць сябе як творца (талент, жыццёвы вопыт, інш.)?

2. Што замінае табе быць самім собой? Твае адносіны да шматлікіх сённяшніх партый, лідэры якіх імкнуцца стаць новымі духоўнымі пастырамі нашых людзей, у тым ліку і моладзі.

3. Твая запаветная мара. Над чым працуеш? Што табе дае суполка "Крыніцы"?



### Таня СТАРАСЦЕНКА:

1. У рабоце Карла Юнга "Псіхалогія і паэтычная творчасць" мяне прывабіла такая думка, што ў асобе творцы змагаюцца дзве сілы: звычайны чалавек з яго звычайнымі жаданнямі і творчая страсць. Таму пытанне "Чым жывеш сёння?" патрабуе двух адказаў. Такім чынам, як звычайны чалавек жыву штодзённымі клопатамі, якімі — тлумачыць не варта, бо яны знаёмы кожнаму з нас. З другога боку, жыву пошукам існасці паэзіі.

Каб сцвердзіць сябе як творца, вельмі мала проста пісаць вершы. Неабходна глыбокае веданне сусветных літаратурных працэсаў, еўрапейскай культуры, некалькіх замежных моў. А яшчэ — тонкае адчуванне музыкі. Над гэтым і працую. Стараюся не забываць сваё піяніна і любімыя творы Бетховена. (Паспяшалася ўжо адказаць і на частку трэцяга пытання анкеты). Па-другое, трэба ўспрымаць жыццё як навізну, як нешта не да канца зразумелае, завершанае. Кажучы словамі А.Камю, "калі б свет здаваўся мне асэнсаваным, я не стаў бы пісаць". Па-трэцяе, лічу патрэбным не ставіць крэдам творчасці лозунг "Ні дня без радка!" Колькасць — гэта яшчэ не якасць. Нявынашаныя, бязважкія радкі ўласцівы ганарліваму графаману, які прагне засмеціць і без таго несалодкае існаванне беларускамоўных выданняў.

2. Зноў-такі пытанне спараджае пэўную двухсэнсоўнасць. Чалавек — сінтэз некалькіх "я". Адно з іх у залежнасці ад жыццёвых абставінаў становіцца валадаром свядомасці. Чым больш гэтых "я", тым цікавейшая асоба, асабліва творчая. Зрэшты, быць самой сабою мне нішто не замінае.

Уласныя адносіны да сучасных партый звычайна даволі суб'ектыўныя, таму мае развагі пра іх станоўчыя і адмоўныя бакі да лідэраў, думаю, не дужа зацікавяць чырваназменаўскіх чытачоў.

3. Запаветная мара — быць заўсёды маладой, прыгожай і каханай. Хачу, каб блізкія людзі адчувалі сябе спакойна і ўтульна са мной, гэтаксама я з імі. Памятаеце слушную англійскую прымаўку "Мой дом — мая крэпасць"? А ўсё астатняе прыкладзецца.

"Крыніцы" падаравалі мне сустрэчу з пісьменнікам Алесем Масарэнкам, які здолеў зразумець і падтрымаць. Героі апавяданняў В.Шукшына ўмелі знаходзіць у шэрасці будняў маленькае свята душы. Па-мойму, для многіх крынічанцаў такім святам стаў кожны панядзелак у гасцінным пакойчыку "Чырвонай змены", дзе чакаюць добрыя знаёмыя, гарбата і абавязкова — новыя творы. І гэтак бясконца: тыдзень, месяц, год, а можа — усё жыццё.



### Андрэй ПЯТКЕВІЧ:

1. Жыву сёньня, як і заўсёды, працаю. Як казаў адзін разумны чалавек: праца ніколі ня здрадзіць.

Каб сьцьвердзіць сябе як творцу, патрэбна, на мой погляд, арыгінальнасьць і сьмеласьць мысьленьня, свабода, незалежнасьць ад розных літаратурных групоўкаў. І, канешне ж, праца. Трэба любіць працу, мець сілу волі працаваць па 10 і больш гадзінаў. Бо іншы чалавек і таленавіты, а не хапае ў яго сілы сесьці ды пісаць. Хоць і ёсьць пра што.

2. Быць самім сабой мне замінае грамадзтва й дзяржава. ("Разумнікаў" прашу ня блытаць гэтыя паняцьці з паняцьцямі "народ" і "краіна"). Гэта двухгаловы дракон, зь якім я змагаюся, хоць і не заўсёды перамагаю.

Арганізацыю КПСС лічу фашыстоўскай бандай, якую трэба судзіць міжнародным судом за ўсе ейныя злачынствы. Радавыя капэсаўцы таксама нясуць маральную адказнасьць. Ніякіх палітычных арганізацыяў я не падтрымліваю. Мяне, як постверніка, непакоіць рэлігізацыя грамадзтва. Рэлігія — гэта чарговы хамут для незалежнага мысьлення.

3. Запаветная мара — падарожнічаць па сьвеце, зьезьдзіць на Усход, наведаць Тыбет, а таксама атрымаць Нобелеўскую прэмію па літаратуры.

Працую цяпер над філёзофскім раманам "Самая страшная кара". Спрабую пісаць фантастыку. Пішу вершы. На адсутнасьць натхненьня ня скарджуся. Кожны дзень прыносіць новыя знаходкі.

Суполка "Крыніцы" дала мне зразумець, што я ўжо вырас з пачаткоўцаў, і трэба сур'ёзна займацца літаратурай. Мяне зьдзіўляюць і абураюць адносіны крынічанцаў да мовы, да вяртаньня граматыкі Б.Тарашкевіча. Яны друкуюцца на савецка-бальшавіцкім моўным сурагаце і на'т ня думаюць пераводзіць выпускі "Крыніцаў" на граматыку Б.Тарашкевіча. Страшная, невытлумачальная інфатыльнасьць крынічанцаў — сядзець і чакаць, калі дазвол на граматыку паднясуць на сподачку капэсаўцы з парлямэнту.

(Спадзяюся, што ўбачу гэтыя адказы ў "Крыніцах", але толькі на граматыцы Б.Тарашкевіча).



### Ігар КАРПОВІЧ:

1. Жыву тым, што дае жыццё. Робіцца гідка і балюча на душы, калі бачыш абяздоленых дзяцей пад час тэлемарафону "Выратуем нашых дзяцей!" на фоне прэзентацый розных фірм, забаўляльных шоу са шматлікімі прызамі, дзе самадавольныя "лэдзі" і "джэнтэльмены" "арыстакратычна" ўжываюць далікатэсы і дарагое пітво; хочацца ўзяць у рукі аўтамат, калі бачыш, як працоўны чалавек, адпахаўшы дзень каля станка, вымушаны рэшткі сутак праводзіць у чэргах, каб набыць тое, што зрабіў сваімі рукамі, а магутныя "кіты", у чыіх руках увесь "надзённы хлеб", шалеюць з тлушчу на ўсялякіх "камароўках", праціна́юць ноч гукамі сваіх "мэрсэдэсаў", з магнітафонаў якіх ляцяць спевы якой-небудзь бардэльнай "зоркі": "Душа, как водочка, светла!" або: "Тётя Хая із Шанхая!": гарую разам з армянамі, азербайджанцамі Карабаха, з малдаванамі, з усім родам чалавечым, які знішчае сваіх братоў і сясцёр, забываючыся пра тое, што гэта не яны іх ворагі, а тыя, хто нацкоўвае аднаго чалавека на другога...

Радуюся за дэпутата, які, бы трактар па ўхабах, выкарыстоўвае ў выступленнях родную мову, нязграбна пакуль, з намаганнем, але шчыра і смела; глядзіш на яго, як на немаўля, якое робіць першыя крокі. Дзякуй тым, хто, адкінуўшы ўсё ўласныя справы, імчыць на дапамогу іншаму. Прашу Бога, каб Ён даў шчасця матулям, якія не баяцца ў гэты час нараджаць дзяцей. Радуюся, дзякую, усхваляю, ганаруся!..

І — на шчасце! — гэтыя станоўчыя заклікі душы перамагаюць драпежныя, і ўжо не хочацца браць аўтамат, не хочацца крывавай помсты, робіцца шкада тых, хто бачыць шчасце ў мёртвых рэчах і жлобскіх уцехах, бо такой асалоды як ПЯШЧОТА, ДАБРЫНЯ І ЛЮБОЎ ім не дасягнуць...

Каб сцвердзіць сябе як творца, патрэбны талент, веды, прага. Жыццёвы вопыт — адзін з кампанентаў ведаў. Прыкладна так: твор — цагляны мур, дзе ролю цэглы выконваюць веды, ролю цэменту — талент. Без таленту няма творцы, без ведаў — няма цікавага творцы, што, па сутнасці, адно і тое ж. А без прагі да творчасці — за яе лепей і не брацца.

2. Раней мне замінала быць самім сабой тое, што я не ведаў, хто я. Цяпер, здаецца, гэтая праблема для мяне высветлілася і я стаўлюся да пытання "Што замінае табе быць самім сабой?" раўназначна з пытаннем "Чалавек, што табе замінае быць ЧАЛАВЕКАМ?"

Я імкнуся быць хрысціянінам.

Я з тымі, хто імкнецца жыць па Дзесяці запаведзях.

3. Мая запаветная мара — дасягненне гармоніі.

Працую над пераапрацоўкаю тых думак, якія прыходзяць у галаву, каб у больш-менш вабным выглядзе перанесці іх на паперу.

На жаль, я яшчэ не надта добра знаёмы з суполкаю, таму не магу сказаць, што яна мне дае. Адзінае, што магу зараз зрабіць, дык гэта — пажадаць "Крыніцам", каб яны мацнелі, мужнелі і ператварыліся ў сапраўды творчую нацыянальную суполку маладых літаратараў цяпер ужо пры часопісе "Першацвет", заснавальнікамі якога сталі штотыднёвік "Чырвоная змена" і газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь".



## Кастусь Елісееў

* * *

Ты быў паядпаны з Богам —
цяпер ты памёр ад кахання.
І твой карабель між поўняй
і месяцам новым тануў.
Трынаццаці дзён не хапіла,
каб зноў адшукаць сваё шчасце.
Ты выйшаў насустрач зорам
у звонкі зязюльчын напеў —
і хмары закрылі неба,
і толькі зорка любімай
на сінім лапіку бездані
ўварвалася ў нервы сну.
Яна разарвала цемру —
нібыта шмат год бадзянняў
пакінулі ў воку вясёлкі
жоўта-чырвоны калёр.
Ты, стомлены, стаў на даху.
Арктурус сказаў: "Спыніся!"
Сосень вяршыняў вільгаць
звінела і рвала ноч.
Была тут калісьці бажніца,
якую ніхто не бачыў,
куды ніхто не заходзіў...
Над чорнай вадой ручая
вагаўся дах пад нагамі.
Гады пацягнулі сетку,
у якой вершаваным рытмам
біўся, крывавячы рукі,
твой маляваны сусвет.
Сонца ўзышло над лесам,
калі ты ляжаў на базальце
сваёй Зямлі незнаёмай,
дзе лёд люляў камяні,
якія не зналі кахання —
ім тое было занадта...
Драпалі рукі скалы,
сонца згарэла між хмар.
А ўвечары ты абдумай —
ці варта шукаць няшчасця...
На бітай дарозе кахання
смерці не можа быць.

* * *

Мільгацела лямпа ў цемры...
Нараджала супраць цемры
сіні прыцемак кватэры
і твой тонкі сілуэт.
На двары трымцелі дрэвы,
за сцяной ліліся спевы...
Я адчуў твой позірк немы,
зоры штораю згасіў.
Трэснуў белы выключальнік,
быў раскрыты малітоўнік.
Запалілася лампада
пад выяваю тваёй.

Сумна ў кут глядзелі вочы
і шукалі выйсця з ночы.

* * *

Попел дзён я ў раку высыпаў
і чарнілам змыў думак ход.
І дарэмна бакас рабіў зігзагі —
у прыцэле спыніўся палёт.
Над магілай яго
чайкі будуць крычаць
і ўстрывожана гнаць варанnё.
Зяленоту травы
на балотным куп'і
восень сеткай імжы праглыне.
Зноў бераг зімой памрэ,
хвоі апрануць сукні снягоў.
Стрэл, параніўшы хворы слых,
бліскавіцай асленіць сон.
Будуць плакаць клясты за Хрыста,
дзюбай з крыжам сціскаючы цвік.
На Галгофе стаялі
ў купальскую ноч...
Разам з вогнішчам згаслым я знік.

* * *

Твар стары
малявалі цагліны сцяны.
Твар чужы
выяўляла паверхня карціны...
Я запомніў той дзень,
я пракляў месяц той —
месяц кропель крыві
на дарозе канчыны.
Вечар першы згарэў,
а другі — патануў.
Трэцяй ночы вятрыска
ўсе свечкі задзьмуў.

За трыма вечарамі
прыходзіць нябыт.



## Вера БАРОДЗІЧ

* * *

Чорны момант настаў...
І ўсё пачарнела ад крыўды.
Вырываецца крык,
нестрыманай душы дзікі крык.
Пацямнеў небасхіл.
Горад стаў і глухі, і бязлюдны,
а каханне тваё зноў у спячцы
такой беспрабуднай,
што яго дабудзіцца не хопіць мне сіл.
У такой цемнаце
нам у заўтра з табою
ісці больш не хочацца.
Чорны момант настаў...
Мне яго падарыў сёння ты.
Адзінота кругом...
А шампанскае чорнага колеру.
Я пап'ю — і душа стане
проста бясколернай,
сэрца стане пустым камяком.

* * *

Ты там,
дзе людзі занядбаныя.
Ты там,
дзе высакародным пачуццям
пагражае гібель.
Ты там,
дзе душы людскія
патанаюць у брудзе свайго цела.
Ты там,
дзе да сваіх пачуццяў
людзі падмешваюць пачуцці жывёл
і захапляюцца гэтым.
Я дзейнічаць буду
па прынцыпу хуткай дапамогі:
выдалю з цябе ўсё нікчэмнае,
рэстаўрырую тваю памяць,
вынесу з твайго арганізма
не адну сотню кілаграмаў смецця.

* * *

На мяжы ўспамінаў і думак
ствараюцца вершы.
На мяжы спакою і роспачы
з'яўляюцца хібы душы.
На мяжы сумненняў і ўпэўненасці
нараджаецца каханне,
а на мяжы майго вар'яцтва —
зацвітае паэзія.

* * *

Калі я ўчыню
ўсяму свету дэбош,
не здзіўляйцеся, братцы, з гэтага,
бо так лёгка ў наш час
звар'яцець ад людзей,
каб затым перабіць іх
і перакалечыць.
Цісне лоўка штодня
на нервовыя цэнтры радня.
Усіх, хто трапіцца мне пад руку,
шкадаваць не бяруся.
Ох, настане той час...
Так, страшэнны дэбош
учыніць я гатова хоць сёння.

* * *

Мы вычарпалі сябе
ў гэтым гнюсным свеце.
Мы вычэрпваем усё,
што ёсць на гэтай зямлі.
Мы коцімся ў бездань.
Апакаліпсіс выратуе
ўсіх нас.

* * *

Колькі на маю долю
давялося праўды?
Хіба што мізэр.
Праўда запаўзала
ў маю душу змяёй,
таму ёй было лёгка
выпаўзці,
бо яна вельмі слізкая.

* * *

У кожным з нас
Жыве ваўкалак страшэнны,
амаль незямны.
Ён дзікаю лапай сваёй
трымае за самае горла.
Расправіцца з кожным,
хто яму перашкодзіць
сілкавацца нянавісцю,
блудадзействам
ці слабасцю вашай душы.

* * *

Я ўстану разам з сонцам,
выйду з матчынай хаты.
Пабягу з хуткасцю ветру
за раку, каб спасцігнуць былое.
Але там засталося тое,
што нічым не назавеш,
хіба што вар'яцтвам...
Там сваёй шурпатай нагой
прайшлася цывілізацыя.

## Анжэліна ДАБРАВОЛЬСКАЯ

* * *

Пакладу ў кошык
велікодных яек,
завяжу хусцінкай

і вячыстым ранкам,
яснаю заранкай
панясу да царквы.
У аіхатлівым звянні
па-над купаламі
галубы віюцца.

І адхланне сэрцу
ў прадчуванні смерці —
Хрыстос
уваскрэс!

* * *

...Звыкнешся з гэтым жыццём —
І станеш горшы
ў кратах крыштальных гэтых...

Вокны ў сцюжу.
Звонку —
дождж ды снег.

Штосьці
спатоліць душу?
Не?

* * *

*Уладзю*

Сябе
самаспаленнем
ацаляю.
Згарэўшы абалонкаю,
душы
стаць глінай —
вечным полымем
абпаленай,
загартаванай,
больш непадуладнай
руцэ і волі
майстра свайго.

* * *

*Сыну*

Карону — у зямлю
каранне — у неба

І мостам стаць
між небам і зямлёю

ўпасці ў неба —
хай зямля аплача

так дрэва
ўгору коранем
расце

* * *

Божа,
як хочацца плакаць над словамі, зорамі, кветкамі,
стаць няўлоўнай, бязважкай, бязмежнай;
ачысціцца
ад шалупіння разважлівых думак і неразважлівай веры...
Божа, зрабі мяне зернем!..

Божа,
як добра, бы кветка, раздорваць пялёсткі —
роснай зямлі і далоням, сагрэтым жывою крывёю,—
іх цеплыня з прахаладай маёю сальецца...
Божа, ці сэрца — у кветцы?

Божа,
на шляху абраным знайду раздарожжа,
камень убачу і птушкай заб'юся аб камень.
Крылы, згубіўшы пер'е, станучь рукамі.
Божа, завошта?



## Усевалад ГАРАЧКА

* * *

Ты ў адвечным маўчанні гатова і далей
працягваць свой прывідны шлях?..
Між пачварных усмешак сытых людзей
праз тупыя пагляды машын,
здратаваўшых прастору агнямі,
твае крокі губляюць вагу,
твая постаць знікае, бы мроя...
Адно вочы шукаюць кагось,
а навокал — адны толькі здані.
Вечар сіні ўпрыгожыць пяшчотай
глыбіню тваіх шэрых вачэй,
сілу дасць, чараўнічае ласкі
ты адчуеш пякельны агонь...
І ты ўбачыш: не вырвацца з гэтага кола,
не змяніць гэты свет
ты не можаш...
А іначай — застанешся з імі.



## ПРЫВІД БЕСПРАЦОЎЯ — УЖО НЕ ПРЫВІД

*"Яшчэ год назад колькасць свабодных рабочых месцаў і вакансій у нашай рэспубліцы ўдва разы перавышала лічбу незанятых работнікаў. А як справы сёння, калі навокал толькі і гавораць, што аб беспрацоўі?*

**П.Завацкі, студэнт. г.Гродна".**

Сёння, на жаль, сітуацыя далёка не радасная. Як паведамілі ў рэспубліканскай службе занятасці, прапанаванне па рабочых на біржы працы ў 1,3 раза больш чым попыт, па спецыялістах і служачых — амаль у сем разоў.

На біржы зарэгістравана больш як чатыры тысячы інжынераў (на 370 вакансій), лішак тэхнікаў-тэхнолагаў узрос у чатыры разы, бібліятэкараў — у 10 разоў, бухгалтараў — у 3,5 раза, эканамістаў — у два разы, сакратароў-машыністак — больш чым у два разы. Попыт на будаўнікоў знізіўся ў 3,5 раза ў параўнанні з мінулым годам, на газаэлектразваршчыкаў — у 5,5 раза, токараў — у 5,2 раза, фармоўшчыкаў — у 3,5 раза. Не могуць знайсці работу каля дзвюх тысяч вадзіцеляў, 460 повараў, 300 аператараў ЭВМ, 700 прадаўцоў, 200 радыётэхнікаў. Як бачым, лічбы гавораць самі за сябе.

Але не трэба апускаць рукі. Як паведамілі ў службе занятасці, на біржы працы маюцца свабодныя месцы для 1800 муляраў, 550 цесляроў-бетоншчыкаў, 300 сталяроў-цесляроў, 200 фармоўшчыкаў, 300 токараў. Так што спяшайцеся. Магчыма, вам і пашанцуе.

Да таго ж на рынку працы вострым дэфіцыт медыцынскіх і ветэрынарных работнікаў, заатэхнікаў, аграномаў, даярак, жывёлаводаў, механізатараў. Карацей кажучы, вёска вас чакае. І калі падобныя прафесіі вас вабяць, тады — у дарогу.

## "ЦІШЭЙ ЕДЗЕШ — ДАЛЕЙ БУДЗЕШ"

**(Калі толькі не п'яны)**

*"Чуў, што з наданняга часу ўведзены новыя штрафы за парушэнне правіл дарожнага руху. Раскажыце, калі ласка, пра іх.*

**А.Вальтоўскі г.Смаргонь."**

Сапраўды, 11 жніўня рашэннем Мінскага гарсавета народных дэпутатаў уведзены новыя меры адміністрацыйнага ўздзеяння за парушэнне правіл дарожнага руху. Цяпер перавышэнне ўстаноўленай хуткасці да 20 км/г будзе абкладацца штрафам у 300-500 рублёў, больш чым на 20 км/г — у 500—1000 рублёў. Дрэнна прыйдзецца і тым, хто любіць "зазірнуць у бутэльку". Таму што цяпер за кіраванне транспартным сродкам у нецвярозым стане прыйдзецца вылажыць ад пяці да дзесяці тысяч рублёў або развітацца з правамі на 2—3 гады. Думайце.




## ЗА ІМПАРТНЫЯ НАВІНЫ — ВАЛЮТУ

*"Зусім нядаўна ў кіёсках "Саюздруку" можна было купіць "Таймс", "Файнэншнл таймс" ці нават ілюстраваны "Тайм". А зараз усе гэтыя цікавыя выданні зніклі. Ці з'явяцца яны зноў?*

**Л.Садоўская, г.Мінск".**

Як паведамілі ў рэспубліканскім аб'яднанні "Саюздрук", зараз там заключаецца дагавор на пастаўку замежнай прэсы з агенцтвам "Тройка прэс". Гэта сумесная прадпрыемства гатова заняцца дастаўкай любых еўрапейскіх газет і часопісаў у вельмі кароткі тэрмін. Як нам паабяцалі, пачынаючы з верасня, замежную прэсу можна будзе набыць у Мінску ўжо праз дзень пасля яе выхаду з друку. Але такое здавальненне дастанецца таму, хто зможа заплаціць за свежыя навіны... валютай. Тыя, у каго "зялёненькіх" не назіраецца, хай не адчайваюцца. Таму што гэтую ж самую прэсу можна будзе купіць і за рублі (праўда, толькі праз тры дні пасля яе выхаду, калі навіны, надрукаваныя там, ужо нельга будзе назваць навінамі).

Так што, паважаныя прыхільнікі замежнай інфармацыі, рыхтуйце "баксы", фунты, маркі і... чытайце.

## ПЯЦЬ ТЫСЯЧ? ДА УЛАДЗІВАСТОКА ПАВІННА ХАПІЦЬ

*"Чула, што хутка будуць уведзены новыя правілы выезду грамадзян за мяжу. Ці не маглі б вы расказаць пра іх?*

**І.Саладкова, г.Паставы."**

Як паведамілі нам у Дзяржаўным мытным камітэце Беларусі, у канцы жніўня — пачатку верасня будуць унесены змяненні ў існуючыя правілы вывазу грошай і валюты за мяжу. Сутнасць гэтых змяненняў у тым, што з іх увядзеннем грамадзянін Рэспублікі Беларусь будзе мець права ўзяць з сабой за мяжу пяць тысяч рублёў (але не расходаваць іх за мяжой), 500 долараў ЗША, а таксама розных падарункаў і сувеніраў — на пяць тысяч рублёў.

Многіх цікавіць пытанне, навошта ж тыя пяць тысяч, якія нельга растрачваць? Адказ, які нам далі ў Дзяржаўным мытным камітэце, да прастага смешны. Грошы гэтыя неабходны для таго, каб вам хапіла на білет да Уладзівастока. Аказваецца, мытня пачынае пра нас турбавацца.

## ЖУРНАЛІСТЫКА — СПРАВА НЕ ДЛЯ СЛАБЫХ

*"Нярэдка гавораць, што ў розных кутках планеты гінуць журналісты, што іх арыштоўваюць і г.д. Ці не маглі б вы расказаць пра гэта?*

**І.У.Пахомаў, пенсіянер, г.п.Нарач".**

Па даных даклада замежнай арганізацыі "Рэпарцёры без границ", у 1991 годзе пры выкананні службовых абавязкаў 72 журналісты былі забітыя, 121 трапіў у турму і зафіксавана 1445 парушэнняў свабоды прэсы.

Больш за ўсё журналістаў загінула ў Югаславіі — 20, 10 — у Калумбіі, 8 — у Перу, 5 — у Мексіцы і 3 — у Нагорным Карабаху. Шмат журналістаў знаходзіцца ў турмах у Кітаі і Ізраілі, Іране і Лівіі, В'етнаме і Турцыі, Камеруне і Югаславіі.

Так што, як бачыце, журналістыка — далёка не мірная прафесія (калі толькі ў наш час можна знайсці хоць якую-небудзь "мірную").

## СНІД ПАКАЗВАЕ ЗУБЫ? НЕ, ЁН УЖО ГРЫЗЕ!

*"Неяк пачалі заціхаць размовы пра СНІД. Можа яго ўжо амаль няма?*

**Н.Ласаў, Нясвіжскі раён."**

На жаль, справы ў гэтай галіне ніколькі не палепшыліся, — хутчэй наадварот. Як паведамілі ў Беларускім рэспубліканскім цэнтры па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам, сітуацыя ў рэспубліцы працягвае ўскладняцца. Ужо зарэгістраваны 83 ВІЧ-інфіцыраваныя. Толькі за сем месяцаў бягучага года выяўлена 14 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, у той час як летась за аналагічны перыяд — усяго пяць, а за ўвесь год — дванаццаць.

Толькі ў ліпені 1992-га выяўлены чатыры заражаныя ВІЧ. Найбольшая колькасць ВІЧ-інфіцыраваных прыпадае на Мінск (55 выпадкаў), па восем — у Віцебскай і Гомельскай абласцях.

Як бачым, СНІД не збіраецца спыняцца на дасягнутым. І ніхто не зможа абараніць нас ад гэтай жудаснай навалы, акрамя саміх.

## НАЦДЭМЫ РОКА

*"У продажы патрохі пачалі з'яўляцца кружэлкі беларускамоўных рок-гуртоў: "Мроя", "Уліс". Наўрад ці гэтым вычэрпваецца нацыянальная музычная маскультура. Сям-там сустракаюцца эпізадычныя згадкі, але дзе можна знайсці хоць бы поўны спіс беларускамоўных рок-гуртоў і бардаў?*

**А.КРУЗ, г.Асіповічы".**



Каб вы чыталі рэгулярна "Нотны аркуш" у нашай газеце, то сустракалі б не толькі эпізадычныя згадкі: няма калектыву, што спявае па-беларуску і выказвае свядомую нацыянальную пазіцыю, пра які б мы не пісалі. Сістэматызаваныя тыя публікацыі леглі ў аснову кнігі "Праз рок-прызму", але яна выйшла ў Нью-Йорку і наўрад ці даступная чытачу ў Асіповічах. Але спіс, які вас цікавіць, з задавальненнем прадстаўляем:

1. Выканаўцы, якія ўнеслі свой уклад у нацыянальную рок-плынь, але сышлі з арбіты па розных прычынах:

"Магістрат" (Мінск), "Бонда" (Мінск), "Белы крук" (Гомель), "Рокаш" (Наваполацк), "Гісторыя" (Гомель), "Блізняты" (Мінск), "Магічны крышталь" (Рэчыца), "Рокіс" (Мінск), "Рэй" (Мінск), "Ветэранскрэпер" (Наваполацк).

2. Выканаўцы, творчасць якіх працягваецца на нацыянальна свядомых пазіцыях:

"Мроя" (Мінск), "Мясцовы час" (Полацк), "Уліс" (Мінск), "Грунвальд" (Наваполацк), "Дзіда" (Полацк), "Крама" (Мінск), "Грамада" (Віцебск), "Ален" (Наваполацк), "Кадэцкі корпус" (Наваполацк), "Новае неба" (Мінск), "Альбаросіка" (Беласток), Данчык (Нью-Йорк), Сяржук Сокалаў-Воюш (Наваполацк), Алесь Камоцкі (Мінск), Вальжына Цярэшчанка (Гомель), "Белбойз" (Мінск), Лера Сом (Полацк), Уладзімір Варачаеў (Полацк-Кліўленд), Андрусь Мельнікаў (Орша), Віктар Шалкевіч (Гародня), Вольга Акуліч (Мінск), Лявон Барткевіч (Мінск—Нью-Йорк), Ігар Добры (Мінск), Сяржук Лаўнік (Гародня), Зміцер Сідаровіч (Мінск) і г.д.

## З ГІСТОРЫІ АЛІМПІЯДЫ

*"Вельмі хацелася б даведацца пра тое, адкуль прыйшлі да нас Алімпійскія гульні. Думаю, што гэта пытанне зацікавіць многіх.*

**В.Лябедзька, г.Віцебск."**

Узнікненне старажытных Алімпійскіх гульняў тлумачыцца цэлым радам легенд. Адна з іх распавядае, што Зеўс у жорсткай схватцы перамог магутных тытанаў і звергнуў свайго бацьку Крона. Стаўшы вярхоўным богам, ён заснаваў спаборніцтвы для ўстанаўлення сваёй улады на Алімпе. Заснавальнікам Гульняў называюць таксама і Геракла.

Легенды — рэч, канешне, цікавая. Але гісторыі патрэбны дакладны пункт адліку. Ім стаў першы помнік, пастаўлены ў Алімпіі пераможцу спаборніцтваў. Таму 776 год да нашай эры, калі Карэб з Элады апярэдзіў усіх сапернікаў на адзін стадый, афіцыяльна лічыцца годам пачатку правядзення Алімпійскіх гульняў. Адзін стадый адпавядаў шасцістам ступням жраца Зеўса. Паколькі замеры праводзілі розныя жрацы, то стадый вагаўся ад 175 да 192 метраў. Дарэчы, гэта дыстанцыя і дала назву спартыўнага збудавання — стадыён.

У канцы вясны ва ўсе грэчаскія дзяржавы накіроўваліся вяшчальнікі. Яны паведамлялі аб наступленні ўсеагульнага міру і аб часе пачатку Алімпійскіх гульняў. Мір працягваўся тры месяцы.

У чацвёртым стагоддзі да н.э. у спаборніцтвах пачалі выступаць атлеты-прафесіяналы. Упершыню ў 388 годзе да н.э. быў зарэгістраваны выпадак спробы даць сапернікам хабар (трэба сказаць, што задума правалілася).

Удзельнікі Алімпійскіх гульняў выступалі як прадстаўнікі пэўнага горада-дзяржавы. Падрыхтоўка ўдзельнікаў спаборніцтваў была арганізавана самым строгім чынам. На працягу не менш дзесяці месяцаў атлеты кожны дзень трэніраваліся ў алімпійскіх школах — гімнасіях, а затым праходзілі своеасаблівыя зборы ў Элідзе — сталіцы дзяржавы, якой належала Алімпія.

З чацвёртага стагоддзя да н.э., як ужо гаварылася, на арэну выйшлі прафесіянальныя атлеты, гатовыя дабівацца перамогі любымі сродкамі. Гэта прывяло да шматлікіх парушэнняў алімпійскіх правіл і паступова знізіла сацыяльную значнасць гульняў.

## БЕЛАРУСАМ — ІСПАНСКІЯ ЎЗНАГАРОДЫ

*"Шмат дзе з'явіліся паведамленні аб цудоўным выступленні спартсменаў аб'яднанай каманды СНД на XXV Алімпіядзе. А колькі медалёў заваявалі беларусы?*

**С. Сачанка, Крупскі раён".**

Усяго беларускія спартсмены заваявалі ў Барселоне 27 медалёў, у тым ліку 17 залатых.

Сёння ўжо можна з поўным правам назваць лепшых. Гэта Віталь Шчэрба (шэсць залатых медалёў, спартыўная гімнастыка), Святлана Багінская (залаты медаль, спартыўная гімнастыка), Канстанцін Лукашык (золата, стральба з пісталета), Аляксандр Курловіч (золата, цяжкая атлетыка), Дзмітрый Даўгалёнак і Аляксандр Масейкаў (золата, медаль у заездзе лодак-двоек), баскетбалісты Ірына Сумнікава і Алена Швайбовіч (золата), залатыя ўзнагароды гандбалістаў Андрэя Барбашынскага, Міхаіла Якімовіча, Андрэя Мінеўскага. Серабраныя і бронзавыя медалі атрымалі Сяргей Смаль, Ігар Астапковіч, Наталля Зверава, Вугар Аруджава, Леанід Тараненка... Адным словам, не падвялі беларусы! А таму хочацца яшчэ раз павіншаваць іх.

## Пра "гэта"

# "БЯЗГРЭШНАЕ ЗАЧАЦЦЕ",

*На пытанні "Чырвонай змены" адказвае загадчыца 6-й жаночай кансультацыі Ала Мечыславаўна КАМЛЮК.*

**– Чакаючы Вас у калідоры, Ала Мечыславаўна, выпадкова падслухала размову маладых жанчын. Адна казала другой, што такога наплыву жадаючых зрабіць "мініаборт", як гэтым летам, у вас яшчэ не было...**

— Не сказала б. Па-мойму, не больш чым заўсёды. Але... усё пазнаецца ў параўнанні, ці не так? У нас у "колькасным" сэнсе не вельмі паказальная кансультацыя, таму што моладзі ў раёне малавата, у асноўным "сталы" кантынгент. Мінус студэнткі, якіх абслугоўвае свая паліклініка. Паехалі б вы на Паўднёвы Захад, у новы мікрараён — вось дзе чэргі! Да гінеколага не прабіцца. Нам у гэтым сэнсе пашанцавала. У сярэднім робім 5—6 "вакуумаў" у дзень два разы на тыдзень. У год атрымліваецца каля чатырохсот. Калі хочаце — вось лічбы: у 1989-м — 410, у 1990-м — 417, у мінулым — 342. Не занадта многа, і "прагрэсу", як бачыце, не назіраецца.

**— Здаецца, "вакуум" памаладзеў? Для некаторых дзяўчынак-падлеткаў наведванне гінеколага стала звычайнай справай. А бацькам вы пра такія "візіты" паведамляеце?**

— Уся наша бяда ў тым, што разумовае развіццё падлеткаў, у прыватнасці, дзяўчынак (калі мы ўжо загаварылі пра іх) не паспявае за фізічным развіццём і фізіялагічнымі патрабаваннямі. Павальная інфантыльнасць і ўсеагульная неадукаванасць у пытаннях сексу... Толькі што з майго кабінета выйшла дзяўчына — вы, магчыма, яе бачылі. На 21-м тыдні цяжарнасці яна раптам "прачнулася" і прыбегла сюды плакаць і ўмаляць даць ёй накіраванне на аборт. (У дадзеным выпадку размова ідзе ўжо пра штучныя роды). Але любое перарыванне цяжарнасці ў такім познім перыядзе павінна быць сур'ёзна абгрунтавана. А ад яе можна дабіцца толькі аднаго: не магу, таму што не магу...

**– Вы мяне здзівілі. Справа ў тым, што за дзвярыма дзяўчыну чакае сябар, відаць, "віноўнік" яе становішча. Яны здаліся мне вельмі мілай парай. Сядзелі блізенька, абдымаліся, ён гладзіў яе па валасах... Нават пазайздросціла...**

Фота С. Брушко



— У тым і справа. Абдымае — а жаніцца не хоча. А дзяўчына ў свае дзевятнаццаць [illegible] своечасова зразумець, што зацяжарыла, і вызначыць лёс дзіцяці, калі нешта яшчэ можна зрабіць. Ці бачыце, "яе сяброўка Люська таксама рабіла аборт на дваццатым тыдні цяжарнасці"..! Вось на якім узроўні набываецца інфармацыя!

Што датычыць паведамленняў бацькам, дык тут усё вельмі індывідуальна. Калі дзяўчынка непаўналетняя (да 16-ці гадоў) і прыходзіць на мініаборт, мы, натуральна, патрабуем пісьмовага і вуснага дазволу ад маці і яе распіску ў тым, што яна папярэджана аб магчымых ускладненнях. Але калі бацькі проста цікавяцца наяўнасцю ці адсутнасцю нявіннасці ў сваёй малышкі, мы нічога не "рассакрэчваем".

Больш таго. Першы гінекалагічны агляд дзяўчына праходзіць яшчэ ў школе, ва ўзросце 15 гадоў. І калі, дапусцім, яна адмаўляе палавое жыццё, дык пасля падрабязнай размовы ёй робяць толькі спецыфічны агляд. (Нават калі ўрач бачыць, што яго падманваюць). Некаторыя дзяўчаты стараюцца пазбегнуць гінеколага менавіта з-за паталагічнай боязі быць "закладзенымі" бацькам. Часам даходзіць да абсурду. Прыходзіць на прыём цяжарная школьніца і б'е сябе ў грудзі, што ні з кім ніколі не спала. Гэткае бязгрэшнае зачацце. Яна абсалютна не думае ні пра ўласнае здароўе, ні пра дзіця тым больш, і да апошняга месяца перадаўлівае джынсамі ці спадніцай свой жывот. Дзяўчынка думае толькі пра адно: што скажуць бацькі, калі даведаюцца! Страх прэваліруе над усімі астатнімі пачуццямі, страх прымушае адкладваць прызнанне "на потым". А ў выніку нараджаецца нікому не патрэбная істота, якая з першага дня жыцця пазнала ўжо нянавісць сваіх родных. Так вельмі часта здараецца ў сем'ях, дзе паміж маці і дачкой няма кантакту, узаемаразумення. Дзе першая, не спрабуючы ні ў чым разабрацца, пастаянна "піліць" другую і трымае яе ў страху: маўляў, прынясеш "у прыполе" — заб'ю. Дзікае выхаванне, дзікія норавы... І калі мы прапануем дзяўчыне, якая прыйшла да нас вельмі позна, раджаць, яна адказвае: ні за што — лепш павешуся!

Бяда многіх бацькоў у тым, што яны не толькі не ўмеюць, але і не хочуць гаварыць з дзецьмі на "гэтыя" тэмы, быццам бы падкрэсліваючы іх забароненасць, амаральнасць. Але ж гэта глупства! Дзіця не вырасце распушчаным, калі даць яму пачытаць патрэбную кнігу ў патрэбны час. (Літаратуры, дзякуй Богу, зараз хапае). Але яно вырасце менавіта распушчаным, калі пачарпне свае веды з сумніцельных крыніц.

**–Але ж існуюць у нас штучныя роды па сацыяльных паказчыках...**

— Вы маеце на ўвазе перарыванне цяжарнасці ў познім перыядзе? Так, існуюць. Але для гэтага патрэбны вельмі сур'ёзныя падставы, а тэрмін цяжарнасці не павінен перавышаць 26 тыдняў.

**– А што адносіцца да сацыяльных паказчыкаў?**

— Развод у перыяд цяжарнасці, смерць мужа, алкагалізм яго, цяжкія ўмовы жыцця маці, калі яна мнагадзетная... Усе астатнія прычыны разглядаюцца медыцынскай камісіяй вельмі індывідуальна. Штучныя роды заўсёды пагражаюць сур'ёзнымі ўскладненнямі. Таму ўсе "за" і "супраць" і ўзважвае спецыяльная камісія. Яна ж дае заключны адказ. Самае страшнае, што дзіця ўсё роўна можа нарадзіцца жывым і выходжваць яго прыйдзецца зноў-такі ўрачам.

**– Кажуць, разумны чалавек – гэта той, хто знойдзе спосаб выправіць сваю памылку, а мудры – той, хто зможа яе пазбегнуць. Якім чынам можна пазбегнуць аборту?**

— У нас не прынята хадзіць па параду да гінеколага. (Справядлівасці дзеля адзначу, што і гінеколагі не заўсёды выклікаюць да сябе прыхільнасць). У выніку атрымліваецца, што ўрач не папярэджвае чыесьці памылкі, а ў асноўным выпраўляе іх. Даволі рэдка незамужняя жанчына спецыяльна прыходзіць даведацца, як загадзя спланаваць нараджэнне дзіцяці (дакладней, як яго пазбегнуць).

На жаль, нашы кансультацыі не маюць сёння магчымасці займацца пытаннямі кантрацэпцыі асобна. Па гэтай прычыне самы распаўсюджаны спосаб рэгулявання дзетанараджэння — унутрыматачны, інакш кажучы, спіраль. Месныя хімічныя прэпараты парушаюць "флору" і эфектыўныя ў 40—50 працэнтах. Гарманальныя таксама не надта папулярныя, бо маюць на ўвазе пастаянныя кансультацыі ў гінеколага. Калі прэпарат няправільна падабраны, у арганізме жанчыны ў выніку яго прымянення могуць адбыцца розныя парушэнні. Каб пазбегнуць непрыемнасцей, трэба загадзя правесці тэстыраванне пацыенткі, даведацца пра асаблівасці яе арганізма, а ўжо тады прызначаць таблеткі. Але гэта ў ідэале, таму што ні адзін гінеколаг сёння не ўстане ўзяць на сябе яшчэ і такую нагрузку. Проста не хопіць часу. Аптымальны варыянт — камп'ютэр са спецыяльнай праграмай. Але апошняга, як Вы здагадаліся, у нас няма.

**– А што такое метад "стэрылізацыі"? Чула, што яго даўно і з поспехам прымяняюць на Захадзе?**

— Ну, у нас яго таксама даўно прымяняюць. Але не так шырока, як, дапусцім, у краінах Афрыкі і Азіі, дзе амаль у кожнай жанчыны нараджаецца па 10-12 дзяцей (што з'яўляецца асноўнай адзнакай яе дзеяздольнасці). У гэтых выпадках стэрылізацыя ўпаўне апраўданая. Што датычыць нашай рэспублікі, то казаць пра шырокае ўкараненне вышэйназванага метаду пакуль не прыходзіцца. "Стэрылізацыя", або, кажучы прасцей, перавязванне, перацісканне матачных труб, прымяняецца ў тым выпадку, калі жанчына суб'ектыўна не хоча раджаць і аб'ектыўна закончыла сваю дзетародную функцыю.

**– Што гэта азначае?**

— Гэта азначае, што яна ўжо мае дастатковую колькасць дзяцей (не менш чым трох, калі ёй да 30 гадоў, або не менш 2-х, калі — да 40). Апошнюю кропку ў рашэнні гэтага пытання заўсёды ставіць урач. Дапусцім, жанчына, нарадзіўшы двух дзяцей, раптам разводзіцца з мужам. Ёй здаецца, што "жыццё скончылася", і раджаць яна ўжо ніколі не будзе... А потым нечакана сустракае другога мужчыну і выходзіць замуж. І гэты "другі" хоча, каб у іх было дзіця...

Так што не варта ўрачу ісці на повадзе ў сваіх пацыентаў, прымаць да ўвагі іх часовы эмацыянальны стан. Дазваляючы стэрылізацыю, ён ідзе як бы супраць самой прыроды і таму бярэ на сябе велізарную адказнасць, зразумейце гэта.

Дарэчы, выконваецца аперацыя ў стацыянары метадам уваходжання ў поласць жывата. У гарадской гінекалагічнай бальніцы яе робяць пры дапамозе новага апарата — лапараскопа. Ён можа ўваходзіць у брушную поласць праз маленькі разрэз, які потым застаецца практычна незаўважаным.

**– З гэтым усё больш-менш ясна. Але, на жаль, кантрацэпцыя – далёка не адзінае пытанне, якое хвалюе жанчын. З якімі праблемамі звяртаюцца яны ў кансультацыю, акрамя "вакуумаў"? Якія захворванні сёння найбольш распаўсюджаныя?**

— Кальпіт (запаленне похвы), мікоз (грыбковае захворванне), запаленне прыдаткаў, трыхаманоз, ганарэя... Праўда, апошнюю мы не лечым, толькі выяўляем. Дарэчы, палавым шляхам перадаюцца не толькі вядомыя ўсім венерычныя захворванні, але і некаторыя запаленчыя, напрыклад, кальпіт. Таму кансультавацца з урачом і лячыцца ў гэтым выпадку лепш удваіх з партнёрам.

У апошні час "актывізаваўся" мікоз ("малочніца") — дысбактэрыёз на фоне лячэння антыбіётыкамі, алергія, якая выклікае ў хворых непрыемнае свярбенне. Дарэчы, таксама можа перадавацца палавым шляхам. Так што, калі ваш партнёр нават і не адчувае ніякіх прыкмет захворвання (яно можа працякаць бессімптомна), усё роўна ўгаварыце яго прайсці паралельны курс лячэння.

**– Атрымліваецца, што ў нашых выключна "жаночых" хваробах зноў-такі вінаватыя мужчыны?**

— Не ва ўсіх, але ў некаторых. Праўда, мы стараемся не гаварыць пра гэта ў прысутнасці нашых пацыентак, каб не правакаваць дамашнія скандалы.

**– Ну што ж, Ала Мечыславаўна, было вельмі прыемна з Вамі паразмаўляць. Думаю, нашы чытачы застануцца задаволеныя.**

Гутарку вяла
Наталля Стралкова.

З прычыны бяспекі аўтара выдавец не называе ягонага прозвішча

# ЗАБІЦЬ ГЭТАГА ПАЛЯКА

Выдавецтва РОК Corporation, Варшава 1991



Усе цытаваныя тут дакументы і выказванні, друкаваныя курсівам, ёсць аўтэнтычныя.

*"Замах на Папу, здзейснены дакладна ў гадавіну ўрачыстасці ў Фаціме, бумерангам ударыў па выканаўцах. Пасля таго, што адбылося, можна дапусціць, што Ян Павел II у Польшчы будзе ў большай фізічнай бяспецы, чым у Ватыкане. Ці, аднак, Саветы, якім не ўдалося знішчыць Папу, не паспрабуюць скарыстацца магчымасцю, каб дыскрэдытаваць галаву Касцёла? Ян Павел II прыбудзе ў краіну, якою пад пакровам войска кіруе дзяржбяспека. Паліцэйская фракцыя паціху падтрымлівае людзей тыпу Стэфана Альшоўскага ці Тадэвуша Грабскага, якія не хаваюць перакананняў, што без крывавага тэрору і ўдару па Касцёлу накшталт снежаньскага ўдару па "Салідарнасці" ў Польшчы ніколі не дойдзе да суцішэння. Ці не стане для КДБ і дзяржбяспекі папская пілігрымка чаканай падставай для нанясення такога ўдару? Магчымасці для правакацыі будуць неабмежаваныя".*

Ян Новак-Езёраньскі
"Замах на Папу"

"Культура", 1983 № 5/428,
Парыж

## ПРАЛОГ

чацьвер, 14 сакавіка 1991
Лондан

У першым класе самалёту Люфтганзы, які ляцеў з Франкфурта ў Лондан, знаходзілася толькі некалькі асобаў. Добра апрануты мужчына з незапамінальным тварам, які сядзеў ля акна, даў знак сцюардэсе.

— Чым магу служыць?— з выразным нямецкім акцэнтам запытала высокая, прыгожая бландзінка, спыніўшыся каля ягонага фатэля.

— Калі ласка, каньяк,— замовіў той на чыстай нямецкай. Любіў падкрэсліць сваё валоданне іншымі мовамі, гэта была адна з ягоных нешматлікіх слабасцяў. Апошнія сем тыдняў працаваў амаль выключна ў Нямеччыне, і яшчэ нават не пераключыўся з мыслення ў гэтай мове.

— Калі ласка,— усміхнулася сцюардэса, а зычлівы бляск у ейных вачах пацьвердзіў, што ягоныя паводзіны мелі жаданы вынік.

Джозэф Мэлары азірнуўся ёй услед. Але ж зграбная! Нагадвала ягоную жонку Надзю, якую ён не бачыў амаль год. На гэты раз яму мусяць даць даўжэйшы адпачынак. Надзі таксама нешта трэба ад жыцця. Паедуць у Крым. Можа нават на цэлы месяц? Джозэф Мэлары меў пачуццё добра выкананага абавязку. Перададзенае яму дырэктарам 17 Асобнага Упраўлення КДБ заданне выканана бездакорна. Былы кіраўнік Усходняй Нямеччыны Эрых Хонекер разам з жонкай знаходзіліся ў дарозе да Масквы.

Нейкі час здавалася, што ягоныя планы здзейсняцца хутчэй, чым чакаў сам. У аэрапорце Хітроу яго ўжо чакаў Эндру Блат, адзін з дырэктараў East-European Traiding Corporation, фірмы, створанай паўтара года таму брытанскім фінансавым кансорцыумам. Мэтай прадпрыемства было наладжванне новых гандлёвых кантактаў з краінамі, якія толькі цяпер ставіліся на шлях вольнарынкавай гаспадаркі. Джозэф Мэлары засядаў у надзорнай радзе ЕЕТ Corporation, прадстаўляючы найбольш паважаных інвестараў.

— Нашы расейскія контрагенты жадаюць тваёй прысутнасці на перамовах, якія датычаць будовы таго новага гатэлю ў Шарамецьева-2,— сказаў Эндру Блат пасля абмену традыцыйнымі формамі ветлівасці.— Віза ўжо зроблена, атрымаеш яе раніцай у пасольстве, а тут — білеты на заўтрашні самалёт да Масквы, зваротныя замоўлены на суботу. Справа пільная,— дадаў са значэннем.

Мары пра адпачынак лопнулі як мыльная бурбалка. Ледзьве саракавасьмігадзінны побыт у Маскве мог азначаць толькі адно: інтэнсіўную падрыхтоўку да нейкай новай і, мусіць, тэрміновай акцыі. З жонкай і сынам не ўдасца яму нават пабачыцца, на палёт да Свярдлоўска дакладна не будзе часу, падумаў ён з жалем.

— Містэр Джозэф Мэлары?— запытаў адзін з двух мужчын, якія падышлі да яго, як толькі прайшоў пашпартны кантроль у падмаскоўным аэрапорце Шарамецьева-2.— Welcome to Moscow. Перамовы пачнуцца заўтра ўранні. Адвязу вас у гатэль. Машына чакае. Прашу за мной,— сказаў, даўшы знак свайму таварышу, каб той заняўся багажом.

У апартаменце гатэлю "Бялград" яго чакала цудоўная неспадзяванка — ягоная жонка Надзя. Адразу ж зразумеў, што гэта звышпланавая ўзнагарода за ягоны бліскучы поспех. Наперадзе была адна ноч, якая мела ўзнагародзіць яго за месяцы і гады самоты. Цяжка. Але ён сам выбраў гэты шлях, калі як дваццацігадовы перспектыўны студэнт Свярдлоўскага універсітэта падпісаў падсунуты да яго праз стол дакумент.

— Здравствуйте, Осип Андреевич — дырэктар надзвычай сакрэтнага 16 Асобнага Упраўлення КДБ, нават сваім супрацоўнікам вядомы пад псеўданімам "Міхаіл", працягнуў яму руку. У ягонай шырокай усмешцы не было нічога штучнага. Не хаваў, што гэта спатканне робіць яму сапраўдную прыемнасць. За апошнія гады меў няшмат прычын для радасці. Хутчэй наадварот. Як у кашмарным сне ўсё тое, што яшчэ нядаўна здавалася абсалютна немагчымым, рабілася яваю. Уз'яднанне Нямеччыны, адрыў саталітарных краін, распад Варшаўскага пакту... А з сярэдзіны суцішаная, як здавалася, назаўсёды імперыя трашчала па швах. Генерал не верыў забабонам, але лічыў, што благія часіны павінны прамінуць. Таму трэба зрабіць усё, каб іх ператрываць. Першай весткай адвароту карты генерал лічыў спецыяльную пастанову сакратарыяту ЦК КПСС ад 22 студзеня, у якой выразна сказана, што...

*"... у кантактах з новым кіраўніцтвам краінаў Усходняе Еўропы належыць звярнуць увагу на недапушчальнасць працягу цікавання былых кіраўнікоў, а таксама камуністаў і функцыянераў праваахоўных органаў тых дзяржаваў".*

Так, гэта зноў была мова, якую генерал разумеў. Пастанова суправаджалася тайнай інструкцыяй, якая больш чым "камандас" у Вільні замацавала ягоныя перакананні, што перамены ўжо за бліжэйшым паваротам. Першай праверкай стала вызваленне Эрыха Хонекера. Менавіта таму з такой радасцю ён павітаў Осіпа Андрэевіча Малькова, свайго найлепшага агента, непарваны спіс поспехаў якога абяцаў добрыя шанцы планаванай цяпер аперацыі.

— Осіп Андрэевіч, не буду ад вас хавацца,— генерал "Міхаіл" спакойна круціў у руцэ сваю любімую залатую запальнічку.— Здагадваюся, што вы хацелі б правесці нейкі час з сям'ёй. Ведаю, што вы сумленна зарабілі сабе адпачынак, але цяпер не магу вас адпусціць. Пакуль не,— падняў урэшце галаву і пасля хвіліннага перапынку загаварыў зноў.— Маю для вас заданне, на якім ужо два разы мы ламалі сабе зубы. Самі выбераце месца і час: не мусіце клапаціцца аб сродках. Адзіная перасцярога: у выпадку няўдачы вы будзеце кінуты сам на сябе. Межавы праход "Чарлі" для вас не існуе.

Маёр Малькоў злёгку ўсміхнуўся. Перад уз'яднаннем Нямеччыны на гэтым праходзе праз Берлінскі мур традыцыйна адбываліся — зразумела, пасля доўгіх перамоваў — абмены шпіёнамі з Захадам. Аднак ён верыў у сваю шчаслівую зорку.

— У суседнім пакоі для вас прыгатаваныя ўсе планы аперацыі "Намеснік-2",— працягнуў генерал.— Афіцыйна, зразумела, ніякіх дакументаў не існуе, былі знішчаны яшчэ перад выкананнем аперацыі. Азнаёмцеся з імі і прааналізуйце прычыны няўдач. Дарэчы, толькі што мы скончылі перамовы з балгарамі. Могуць сабе судзіць гэтага дурня Жыўкава за фінансавыя злоўжыванні колькі хочуць, але справы "Намеснік" яны не крануць. Спадзяюся, што зразумелі гэта і што з іх боку нам не пагражае ніякае "паблісіці", як гэта называюць вашыя прыяцелі ў Англіі. Заўтра вы адлятаеце ў Лондан. Паведамленні — нармальным каналам. Жадаю шчасця, палкоўнік Малькоў. Так, пачулі добра, палкоўнік,— падкрэсліў апошняе слова генерал, які спецыяльна трымаў гэтую навіну да сканчэння размовы.— За выдатнае выкананне апошняга задання вы былі павышаны на дзве ступені і ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Віншую. А аб вашым адпачынку пагаворым, спадзяюся, праз нядоўгі час. Гэта залежыць толькі ад вас.

"Ну што ж, бог тройцу любіць",— падумаў палкоўнік Малькоў, сціскаючы працягнутую да яго далонь генерала.

## РАЗДЗЕЛ 1

чацвер, 25 лістапада 1982 г.
Варшава, рэзідэнтура КДБ.
Віла пры вуліцы Бельведэрскай, 18.
9.30 ранку.

Генерал Юры Яўленка, афіцыйна выконваючы абавязкі першага сакратара савецкага пасольства, з незадавальненнем адклаў на стол тоўсты рапарт. Толькі сёння ён атрымаў поўны тэкст размовы Ярузельскага з Глемпам, і вывучэнне яго пацьвердзіла найгоршыя перасцярогі. Справы ішлі ў найгоршым кірунку. Размова адбылася два тыдні таму, а праз два дні з арышту выпусцілі таго псеўдарабочага Валенсу. Другі візіт Яна Паўла II ў Польшчу таксама перастаў быць толькі аператыўным прыпушчэннем. Вызначылі нават тэрмін.

*Згода на адбыццё візіту Папы ў 1983 годзе была ўзалежнена ад:*

*1. Устрымання ад выказвання рэлігійных зместаў пілігрымкі, ад падтрымання напружанасці і апазіцыйных настрояў у грамадстве.*

*2. Прызнання суадказнасці клеру за стварэнне клімату візіту.*

*3. Адмаўлення ад усялякіх акцэнтаў, якія маглі б паўплываць на ўскладненне адносінаў з Савецкім Саюзам і іншымі сацыялістычнымі краінамі.*

*4. Улічэння ў выступах Папы пазітыўных акцэнтаў, згодных з генеральнай лініяй польскай замежнай палітыкі.*

Тыя палякі! Тыя шкодныя, дурныя палякі, забушаваў рэзідэнт. Прыдумалі сабе "ўступныя ўмовы". А Ватыкан зробіць з імі што захоча! А ці ж ён, генерал Яўленка, не папярэджваў? Ці не пісаў рапартаў, не рабіў дзесяткаў аналізаў? "Гэты склеротык, пэўна, усё кідаў у кош",— з нечаканай злосцю падумаў ён пра Брэжнева. Але Брэжнеў ужо не жыве. Новы кіраўнік, Юры Уладзіміравіч Андропаў, які вырас з сапраўднай, цвёрдай школы КДБ, мысліць так, як ён. У гэтым генерал не меў ніякіх сумненняў.

Рухам рукі ён паклікаў ад'ютанта, які стаяў у дзвярах.

— Зашыфруй гэта неадкладна і вышлі ў Цэнтр,— сказаў яму, паказаўшы на рапарт.— А перад тым патэлефануй у бюро і скажы паслу Арыставу, што сёння не буду мець для яго часу.

Рым,
той самы час,
адна з вуліц
у квартале Номантана

Загад аб арышце быў падпісаны суддзём Іляроё Мартэлі. Збялелы віцэ-дырэктар прадстаўніцтва балгарскіх авіялініяў Сяргей Антонаў невядома чаму першым заўважыў менавіта гэта перад тым, як прачытаў абвінавачванне ў "непасрэдным удзеле" ў спробе забойства Яна Паўла II.

— Хто такі суддзя Мартэлі?— бездапаможна сказаў ён у прастору, а потым моўчкі дазволіў карабінерам адзець на сябе кайданкі. Дэтэктыў Джурыё са штаб-кватэры італьянскага Ligos, які стаяў побач з ім, падумаў, што бачыць чалавека, у якога нечакана парушылася ўсё. Ці чалавека, які ведае, што ўсё скончана.

— Дык хадзем,— сказаў ён.— Навошта рабіць вулічную сенсацыю.

Журналісты, якія штурмавалі бюро суддзі Мартэлі, не атрымалі нічога, акрамя лапідарнага паведамлення:

*Атрыманая інфармацыя дазваляе зрабіць выснову, што Мехмед Агджа здзейсніў замах на Папу пры падтрымцы іншых асобаў, частка якіх выяўлена, а частка яшчэ мусіць быць высветленай.*

Масква, Крэмль,
праз дзве гадзіны.

— Дурні!— раз'юшыўся Андропаў, які ледзьве некалькі дзён таму ўладкаваўся ў абсталяваным з візантыйскай велічцу кабінеце Генеральнага сакратара ЦК КПСС. Не паспеў яшчэ нават распарадзіцца аб змене ягонага выгляду, а ўспаміны пра папярэдніка толькі ўзмацнялі ягоную ярасць.— Праклятыя дурні! Завалілі работу і нават не мелі ласкі адклікаць агента з Рыма. Што гэты Антонаў яшчэ там рабіў, Віталій?

— Не ведаю, Юры Уладзіміравіч,— Віталь Федарчук, шэф КДБ, перасмыкнуў плячыма. На шчасце, гэта не ён мусіў найбольш турбавацца няўдачай балгарскай аперацыі "Намеснік". Рашэнне аб прапанаванні балгарам аперацыі "Папа" прыняў сам Андропаў, калі яшчэ быў шэфам КДБ. Справу дапільноўваў непасрэдна шэф аддзела "С" з Першага Галоўнага Упраўлення, а ён, Федарчук, быў ледзьве інфармаваны, дый тое, толькі пачаўшы з мая гэтага года. У маі Федарчук быў прызначаны Бюро да прыняцця пасады кіраўніка КДБ. Андропаў падняўся тады на пост сакратара ЦК, каб у чаканні смерці Брэжнева падрыхтавацца да апошняга раунда ў змаганні з Чарненкам за фатэль Генеральнага сакратара. Цяпер Федарчуку засталося толькі пільнаванне балгар, каб акрамя выдавання паведамленняў аб "бессаромнай правакацыі" і "варожай кампаніі ашуканстваў, пачатай з мэтай пагаршэння добрых балгара-італьянскіх стасункаў", тыя добра ўзяліся за выціранне ўсялякіх слядоў узаемных сувязяў. Сведчанняў няма і быць не можа.

(Працяг будзе).

Пераклаў з польскай
Уладзімір ПАНАДА

# ФИРМА "АНТРОПОС" РЕАЛИЗУЕТ

со склада в городе Минске за наличный и безналичный рублевый расчет:

1. Персональные компьютеры IBM PC/AT 286/287 производства США различного исполнения.

В состав ПК IBM входят: системная плата с тактовой частотой 16-20 МГц,
ОЗУ 1-2 Мб,
винчестер 40-60 Мб,
дисководы 1.2/1.44 Мб,
принтер EPSON LX 1050, STAR NX-1500.





Цена от 210 до 235 тысяч рублей, в зависимости от комплектации.

2. Ленты красящие к принтеру Hyundai HDP 920 (13 мм). Цена 350 рублей.
3. Дискеты 1.2 Мб производства США. Цена 58 рублей за штуку.



4. Источники бесперебойного питания мощностью 300 Вт. Цена 60 тысяч рублей.
5. Телефоны PANASONIC. Цена 8-15 тысяч рублей.
6. Обувь мужская производства Южной Кореи.

☏ 399 147 399 161

# Фирма "СБН"

реализует со склада в городе Минске за наличный и безналичный расчет:

- Мужские кожаные куртки производства Индии: удлиненные (цена 25 и 26 тысяч рублей); короткие (цена 23 тысячи рублей).
- Женские кожаные костюмы производства Индии (цена 35 тысяч рублей).
- Куртки пуховые производства Китая (цена 6930 рублей).
- Утюги производства Китая (цена 1860 рублей).
- Дискеты 1,2 мб производства США (цена 55 рублей за штуку. Минимальная партия 100 штук).
- Товары народного потребления в небольших количествах.

Оптовым покупателям предоставляется скидка.



*544-118,544-321,542-063*




## Газетна-выдавецкая фірма "БЕЛАЯ РУСЬ"

падрыхтавала да друку буквар на беларускай мове — кнігу-размалёўку "Вясёлая азбука". Яна будзе выдадзена ў канцы жніўня 1992 года.

Фірма "Белая Русь" прымае заказы ад арганізацый, школ, гарадскіх і раённых аддзелаў народнай адукацыі на пастаўку аптовых партый дадзенага выдання. Кошт па дамоўленасці.

Спяшайцеся, тыраж кнігі абмежаваны.

*Па даведкі звяртайцеся па тэлефоне: 32-14-33, 32-11-43.*
*Наш адрас: 220041, г.Мінск, пр-т Ф.Скарыны, 79, фірма "БЕЛАЯ РУСЬ".*

## ЦЭНТР "СЕРВІС-РЭКЛАМА"

запрашае МП, СП, кааператывы, калгасы і саўгасы для сумеснага правядзення і спонсарства дабрачыннай акцыі, якая адбудзецца ў Рэспубліцы Беларусь у кастрычніку 1992 г.

**Запрашаем:**

- ☐ народныя і эстрадныя групы, асобных выканаўцаў для ўдзелу ў канцэрце;
- ☐ мастакоў для ўдзелу ў выставе-продажы.

На выручаныя сродкі будуць набыты медыкаменты, мед.абсталяванне для ўдзельнікаў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы і дзяцей інвалідаў.

*Звяртацца па тэл. 55-07-00, 38-96-18 з 10.00 да 20.00.*

## РЭКЛАМНЫ АДДЗЕЛ ШТОТЫДНЁВІКА "ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА" ПРАПАНУЕ СВАЮ ГАЗЕТНУЮ ПЛОШЧУ ДЛЯ РЭКЛАМНЫХ АБ'ЯЎ.

РАЗМЯШЧЭННЕ РЭКЛАМЫ Ў НАШЫМ ВЫДАННІ БУДЗЕ ДЛЯ ВАС КАШТАВАЦЬ НАШМАТ ТАННЕЙ, ЧЫМ У ЛЮБЫМ ІНШЫМ.

*Нашы тэлефоны: 321-433, 321-354. Факс: 320-263.*

# Кінаафіша

## "БЯЗМЕЖНАСЦЬ"



Так называецца каляровы мастацкі фільм, які паставіў па сваму сцэнарыю выдатны рэжысёр Марлен Хуцієў на кінастудыі "Масфільм".

...У жыцці кожнага чалавека настае такі момант, калі ён асэнсоўвае мінулае, задумваецца аб уласным лёсе. Так здарылася і з героем карціны Уладзімірам Іванавічам, які прыязджае ў родны горад, дзе прайшлі яго дзяцінства і юнацтва. Ён успамінае сваё мінулае, твары сяброў, падзеі і факты, якія адбыліся ў яго жыцці. І непазбежна думкі героя звяртаюцца і да лёсу сваёй радзімы, і, у рэшце рэшт, да будучыні ўсяго чалавецтва...

Так, чалавек смяротны, але ён павінен верыць у тое, што жыццё будзе на зямлі, пакуль на ёй жывуць іншыя, родныя і блізкія людзі. Такі лейтматыў гэтага паэтычнага кінатвора, які апавядае аб велічы чалавечага духу.

Выдатна іграюць свае ролі ў карціне Уладзіслаў Пільнікаў, Марына Хазава, Андрэй Сяроў, Марына Тараканава.

## "МЕМЕНТА МОРЫ"

Вытворчасць кінастудыі "Глобус". Аўтары сцэнарыя – Мікалай Гейко і Зміцер Варанкоў, рэжысёр-пастаноўшчык – Мікалай Гейко.

Якіх толькі назваў ні выкарыстоўвае зараз наш кінематографі Ту.п табе і латынь, і англійскі, і стараславянскі. Магчыма, частка гледачоў, якія прыйшлі паглядзець гэты незвычайны фільм, так і не зразумее, якая ж сувязь паміж гэтымі словамі і могільнікавай тэматыкай, якая атрымала ў карціне нечаканае сюжэтнае ўвасабленне.

...У маленькім украінскім гарадку жывуць чацвёра сяброў: Віця Дзікі, завадатар, Сенька, Дзімка і Мішаня (самы маленькі). У час школьных канікулаў яны катаюцца на дахах вагонаў. Б'юцца з варожай кампаніяй ды ставяць сіло на чыжоў. Так і прадаўжалі б яны адпачынак, калі б не адно жудаснае здарэнне: у час навальніцы з вагона таварняка ўпаў і разбіўся на смерць Дзікі...

Фільм акцэнтуе ўвагу на тым, што непаладкі ў грамадстве робяць свой адбітак у маладзёжным асяроддзі непрадказальнымі, недарэчнымі і нават жудаснымі драмамі.

Ролі галоўных герояў увасобілі на экране Максім Кузьменка, Саша Панамароў, Аляксандр Кірычупаў, Саша Ляпёхін, Міхаіл Конанаў.

## "ДУХ ПОМСТЫ"

Гэта каляровая мастацкая амерыканская кінастужка (аўтар сцэнарыя – Майкл Марвін, рэжысёр – Бак Хаўстан) будзе сапраўдным падарункам аматарам вострасюжэтных захапляльных відовішчаў.

А сюжэт карціны сапраўды нетыповы. Галоўны герой яе становіцца... прывідам. Злая сіла авалодвае ім, і фантом пачынае бязлітасна помсціць бандзе заўзятых злачынцаў. Дзеянні духу настолькі прадуманыя і разлічаныя, помста гангстэрам ажыццяўляецца так па-вынаходніцку і віртуозна, што многія экранныя супермены ў цялесным вобразе ў параўнанні з ім выглядаюць вельмі блякла...

Ролі галоўных герояў выконваюць Рэндзі Кванд, Нік Касаветэс, Чарлі Шын і іншыя акцёры.

## "ЛЕАПАРД"

Пастаноўку каляровай французскай мастацкай кінастужкі з такой назвай выканаў па сваму сцэнарыю, які напісаны ў садружнасці з Аленам Рыу, рэжысёр Жан-Клод Сусфельд.

Прыгожая раманістка Палін Фіцджеральд, якая стварыла цэлы серыял дэтэктываў аб некім Ніку Дэнверы, становіцца сведкай незразумелага забойства. Пры гэтым у яе застаецца таямнічы рукапіс. Затым гэты рукапіс, змест якога звязаны з загадкавай арганізацыяй у Афрыцы, таямніча знікае з яе кватэры. Але дапытлівая Палін усё ж паспела пазнаёміцца з ім. Яна накіроўваецца ў самыя нетры Паўднёвай Афрыкі, каб атрымаць матэрыял для свайго новага рамана.

Але, аказваецца, не адна Палін зацікавілася звесткамі, якія былі ў рукапісе. Са спецыяльным заданнем пад кодавай назвай "Леапард" у Афрыку накіроўваецца энергічны маёр сакрэтнай службы Ларціг.

У Афрыцы Палін трапляе ў рукі невядомых асоб, якія сочаць за ўсімі, хто цікавіцца арганізацыяй. На шчасце, па волі лёсу Палін сустракаецца з Ларцігам, і ён выратоўвае яе ад палону. Дарэчы, выпадак зводзіць Палін таксама і з Нікам Дэнверам – сапраўдным Нікам Денверам, а не створаным фантазіяй Палін, аднак яго мэты супрацьлеглыя тым, якімі зацікаўлена Палін, і... паўтарэння сардэчнага рамана не атрымалася.

Яго месца займае Ларціг. Спачатку маладых людзей, Палін і нястрымнага маёра Ларціга, раз'ядноўвае пачуццё саперніцтва на дэтэктыўнай глебе, але потым сумеснае пераадоленне перашкод на шляху выкрыцця небяспечнай арганізацыі збліжае іх і прымушае па-новаму паглядзець адзін на аднаго.

У фільме здымаліся Клод Брасер, Дамінік Лаванан, Макс Мэгі, Ліліян Бертран, Ніні Крэпон і іншыя.

## 24, панядзелак

### Беларускае тэлебачанне
16.30. Навіны.
• 16.35. "Заяц, Скрып і Скрыпка", "Цінка-павуцінка", "Квакша", "Жыла-была пчолка".
17.35. Праграма для падлеткаў і бацькоў.
18.00. Тэл. дак. фільмы.
19.00. Абласныя навіны (Брэст).
19.10. "Яшчэ раз пра незалежнасць". Выступленне старшыні БНФ, народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь З.С.Пазьняка.
19.30. Творчае аб'яднанне МЭТА.
20.20. "Да берага далпыць..." Частка 1-я. А.Дзмітрыеў. "Сказ пра гора-злачасце".
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
◆ 21.25. "Руская рулетка".
22.45. Спартыўны тэлекур'ер.
23.05. НІКа.
23.20. Рамансы.

### 1 канал. Астанкіна
5.00. Навіны.
5.20. Ранішняя гімнастыка.
5.30. Раніца.
• 7.50. "Скарб".
8.00. Навіны.
◆ 8.20. "Семнаццаць левых ботаў". 1-я серыя "Адзін".
• 9.25. "Жывая гліна".
◆ 9.40. "Баль казак".
11.00. Навіны.
13.10. Тэлемікст.
13.55. Блакнот.
14.00. Навіны.
14.25. Адпачывай.
◆ 14.40. "Аднойчы ў снежні".
• 15.55. "Даніла і Няніла".
16.15. У свеце матораў (аўтасалон-92).
16.35. Пакуль гарыць свечка.
17.00. Навіны.
17.25. Футбольны агляд.
17.55. Крэшчэнда.
18.15. НЭП.
18.45. Аўтарская праграма Э.Разанава.
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
◆ 20.40. "Семнаццаць левых ботаў". 2-я серыя "Сям'я".
21.45. "Новая студыя".
23.00. Навіны.
◆ 23.25. "Аднойчы ў снежні".

### Канал "Расія"
7.00. Весткі.
7.20. Час дзелавых людзей.
7.50. Белая варона.
8.35. Вольны час.
8.50. Майстры. Акцёр Міхаіл Чэхаў.
9.45. "Востраў Афрадыты". Частка 3-я.
10.30. Рускія песні і рамансы.
◆ 11.15. "Прывід замка Марысвіль".
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
15.00. Сігнал.
• 15.15. "Дзіўны матылёк", "Крылы, ногі і хвасты".
15.30. Дзіцячая гадзіна.
16.30. Азірніся, Расія.
16.45. Там-там навіны.
17.00. "Рэха сабантуя".
17.30. "Рэпартажы з НАТО".
18.00. Тварам да Расіі.
18.15. Наш сад.
18.45. Экран крымінальных паведамленняў.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
◆ 19.30. "Афёра".
21.00. Без рэтушы.
22.00. Весткі.
22.20. Здароўе па інструкцыі.
22.35. "Зоркі Амерыкі". Выпуск 4-ы.
23.05. Рок-кафэ.

## 25, аўторак

### Беларускае тэлебачанне
8.30. Раніца рэспублікі.
8.45. Фільм-канцэрт.
◆ 9.15. "Руская рулетка".
10.35. Тэл. дак. фільм.
◆ 11.25. "Сэрца не камень". 1-я і 2-я серыі.
16.30. Навіны.
• 16.35. "Наваселле ў браткі Труса", "Спрыдзіціс", "Шчасце Нурлана", "Васьміножкі".
17.35. Выстаўка ў лагеры "Зубраня".
18.00. Тэл. дак. фільмы.
19.00. Абласныя навіны (Віцебск).
19.10. Творчае аб'яднанне МЭТА.
19.55. Эканамічная хваля.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.25. Тэлебіржа.
◆ 21.35. "Дайце мужа Ганне Дзакеа".
23.20. НІКа.

### 1 канал. Астанкіна
5.00. Навіны.
5.20. Ранішняя гімнастыка.
5.30. Раніца.
• 7.50. "Карабель пустыні".
8.00. Навіны.
◆ 8.20. "Багатыя таксама плачуць".
9.05. Фальклорнае свята ў Флёнаве.
9.35. Тэл. дак. фільм.
◆ 9.50. "Семнаццаць левых ботаў". 2-я серыя "Сям'я".
11.00. Навіны.
◆ 11.20. "Тры арэшкі для Золушкі".
12.45. Іграе Віктар Шастапал.
12.55. Аўтарская праграма Э.Разанава.
13.55. Блакнот.
14.00. Навіны.
14.25. Пра спорт і не толькі.
◆ 14.45. "На цёмным баку Месяца". 1-я серыя.
15.50. Выступленне дзіцячага фальклорнага ансамбля "Дубровачка".
◆ 16.00. "Востраў скарбаў". 1-я серыя.
17.00. Навіны.
17.25. "Вячэрні альбом".
17.45. Студыя "Палітыка" паказвае.
◆ 18.15. "Багатыя таксама плачуць".
19.00. Тэма.
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
◆ 20.40. "Семнаццаць левых ботаў". 3-я серыя "Маці".
21.45. Фермата.
22.10. Футбол. Таварыская сустрэча. "Дынама" (Масква) – "Дынама" (Кіеў). 2-гі тайм.
23.00. Навіны.
23.25. Шмат музыкі.
◆ 0.25. "На цёмным баку Месяца". 1-я серыя.

### Канал "Расія"
7.00. Весткі.
7.20. Час дзелавых людзей.
7.50. Без рэтушы.
8.45. Вольны час.
9.00. "Вечар у Сакольніках з Сяргеем Шаровым".
9.30. Непазнаны Сусвет.
• 10.15. "Уладар маланак".
10.25. Канцэрт.
◆ 11.10. "Злодзеі ў законе".
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
15.00. Тэлебіржа.
• 15.30. "Вязні Ямагіры-Мару".
16.00. Студыя "Рост".
16.45. Там-там навіны.
17.00. Прагулкі з Наталляй Галкінай.
17.40. "Благавешчанне".
17.55. Пласіда Дамінга.
18.00. Парламенцкі веснік.
18.15. Магікане. Галіна Кавалёва.
18.45. Альбуцыд.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Расія-Японія. Вядучы У.Цветаў.
20.20. Па смаленскай дарозе.
21.00. Пятае кола.
22.20. Арт-абстрэл.
23.20. Вячэрні канцэрт.

## 26, серада

### Беларускае тэлебачанне
8.30. Раніца рэспублікі.
◆ 8.45. "Генеральная рэпетыцыя". 1-я і 2-я серыі.
10.55. Творчае аб'яднанне МЭТА.
11.45. Тэл. дак. фільм.
◆ 12.35. "Горы дымяць". 1-я і 2-я серыі.
16.30. Навіны.
◆ 16.35. "Нявеста падземнага прынца".
• 17.50. "Марусіна карусель".
18.00. Тэл. дак. фільм.
18.30. Еўрапейскія далягляды.
19.00. Абласныя навіны (Гомель).
19.10. Роднае слова.
19.50. Творчае аб'яднанне МЭТА.
◆ 20.10. "Да берага даплыць..." Частка 2-я.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
◆ 21.25. "Разводы, разводы..."
22.40. НІКа.
22.55. Футбол. Чэмпіянат Беларусі. "Беларусь" (Мінск) – "Тарпеда" (Магілёў). 2-гі тайм.

### 1 канал. Астанкіна
5.00. Навіны.
5.20. Ранішняя гімнастыка.
5.30. Раніца.
• 7.50. "Крэм-бруле".
8.00. Навіны.
◆ 8.20. "Багатыя таксама плачуць".
◆ 9.55. "Семнаццаць левых ботаў". 3-я серыя "Маць".
11.00. Навіны.
◆ 11.20. "Аслiная шкура".
• 12.45. "Кошчын дом".
13.10. Тэлемікст.
13.55. Блакнот.
14.00. Навіны.
14.25. Сёння і тады.
◆ 14.55. "На цёмным баку Месяца". 2-я серыя.
◆ 15.55. "Востраў скарбаў". 2-я серыя.
17.00. Навіны.
17.25. Мелодыі і рытмы Узбекістана.
◆ 17.55. "Багатыя таксама плачуць".
18.40. "Каму ён патрэбны, капіталізм?" Вядучы У.Познер.
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. "Семнаццаць левых ботаў". 4-я серыя "Дачка".
21.50. Чорная скрыня.
22.30. Старонкі рускай музыкі.
23.00. Навіны.
23.25. Лімпапо.
23.55. "У стылі кантры".
◆ 0.35. "На цёмным баку Месяца". 2-я серыя.

### Канал "Расія"
7.00. Весткі.
7.25. Час дзелавых людзей.
7.55. Арт-абстрэл.
8.55. Праграма "Ключ".
9.10. Вінілавыя джунглі.
9.40. Калужскія майстры.
10.10. Ф.Шуберт. Сімфонія до-мажор.
◆ 11.05. "Усё нармальна".
12.40. Сялянскае пытанне.
15.00. Казырная дама.
• 15.30. "Белая чапля", "Сястрычкі-прывычкі", "Клякса".
16.05. "Імперыя вінаў" (горад Пяцігорск).
16.40. Там-там навіны.
16.55. Хрысціянская праграма.
17.40. М-трэст.
17.55. Тварам да Расіі.
18.10. Палітаддзел.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
◆ 19.30. "Санта-Барбара".
• 20.20. "Вяртанне з зорак".
20.25. Памяці Юрыса Подніекса.
22.00. Весткі.
22.20. Гала-канцэрт зорак опернага мастацтва.

## 27, чацвер

### Беларускае тэлебачанне
8.30. Раніца рэспублікі.
◆ 8.45. "Разводы, разводы..."
10.00. "Смех пад сонцам".
10.35. Фільм-канцэрт.
◆ 11.35. Дзённы сеанс. "Джэк Васьмёркін – "амерыканец". 1-я і 2-я серыі.
13.45. "Быць і лічыцца". Тэл. дак. фільм.
16.30. Навіны.
• 16.35. "Самая салодка дыня".
16.45. Скарбы беларускай гісторыі.
17.00. Футбол. Чэмпіянат Беларусі. "Тарпеда" (Мінск) – КІМ (Віцебск).
18.45. Тэл. дак. фільм.
19.00. Абласныя навіны (Гродна).
19.10. Зачытайце маё пісьмо...
19.15. Дыялог амерыканскіх бізнесменаў.
19.45. Творчае аб'яднанне МЭТА.
20.05. Тэл. дак. фільм.
20.25. Тыдзень беларускага ўрада.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Латарэя ўдачы.
21.30. "Крок" прадстаўляе...
22.30. НІКа.
22.45. Футбол. Чэмпіянат Беларусі. "Дынама" (Брэст) – "Трактар" (Бабруйск). 2-гі тайм.
23.35. Футбол-92.

### 1 канал. Астанкіна
5.00. Навіны.
5.20. Ранішняя гімнастыка.
5.30. Раніца.
• 7.50. "Капрызны Мурад".
8.00. Навіны.
◆ 8.20. "Багатыя таксама плачуць".
◆ 9.50. "Семнаццаць левых ботаў". 4-я серыя "Дачка".
11.00. Навіны.
◆ 11.20. "Тры залатыя валаскі дзеда Усяведа".
12.30. Лімпапо.
13.10. Тэлемікст.
13.55. Блакнот.
14.00. Навіны.
14.25. Гэта было... было...
◆ 14.45. "На цёмным баку Месяца". 3-я серыя.
• 15.50. Мультфільм.
◆ 16.00. "Востраў скарбаў". 3-я серыя.
17.00. Навіны.
17.20. ...Да 16 і старэйшым.
18.00. "Багатыя таксама плачуць".
18.40. Кінапанарама.
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
◆ 20.35. "Семнаццаць левых ботаў". 5-я серыя "Бацька".
21.40. Урмас От гутарыць з Іосіфам Кабзонам.
23.00. Навіны.
23.25. Гукавая дарожка.
◆ 23.55. "На цёмным баку Месяца". 3-я серыя.

### Канал "Расія"
7.00. Весткі.
7.25. Час дзелавых людзей.
• 7.55. "Казка пра старое рэха", "Крылы, ногі і хвасты".
8.05. Памяці Юрыса Подніекса.
9.35. Вольны час.
9.50. Дабрачынны канцэрт.
11.20. Дакументальная праграма.
11.50. "Санта-Барбара".
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
15.00. Бізнес: новыя імёны.
15.15. Пілігрым.
16.00. "АЭС: пагляд знутры".
16.30. Азы кар'еры.
16.45. Там-там навіны.
17.00. Далёкі Усход.
17.45. Паралелі.
18.00. Парламенцкі веснік.
18.15. Успамінаючы Ігара Ільінскага.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Крымінальныя весткі.
◆ 19.45. "Санта-Барбара".
20.35. Інтэрв'ю прэзідэнта Рэспублікі Чувашыі Э.А.Кубарава.
21.00. Пятае кола.
22.00. Весткі.
◆ 22.20. "Сірано дэ Бержэрак".

## 28, пятніца

### Беларускае тэлебачанне
8.30. Раніца рэспублікі.
◆ 8.45. "Сэрцы чатырох".
10.20. Творчае аб'яднанне МЭТА.
10.40. Тэл. дак. фільмы.
◆ 11.30. "Джэк Васьмёркін – "амерыканец". 3-я серыя.
12.40. "Музыка Мравінокага".
14.05. Тэл. дак. фільмы.
15.35. Фільмы-канцэрты.
16.30. Навіны.
• 16.35. "Капрызка", "Крылатае асляня", "Замочак з сакрэтам".
17.25. "Канікулы, канікулы..." Адпачынак дзяцей у лагеры "Чабарок".
18.00. "Спошыял алімпекс" на Беларусі.
18.25. Тэл. дак. фільмы.
19.00. Абласныя навіны (Магілёў).
19.10. НАТО сёння і заўтра.
19.35. Край.
◆ 20.10. "Да берага даплыць..." Частка 3-я.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.25. Тэлебіржа.
◆ 21.35. "Сэрцы чатырох".
23.05. НІКа.

### 1 канал. Астанкіна
5.00. Навіны.
5.20. Ранішняя гімнастыка.
5.30. Раніца.
• 7.50. "Як мышаня лятучым стала".
8.00. Навіны.
◆ 8.20. "Багатыя таксама плачуць".
9.00. Клуб падарожнікаў.
◆ 9.50. "Семнаццаць левых ботаў". 5-я серыя "Бацька".
11.00. Навіны.
◆ 11.20. "Прынцэса на гарошыне".
12.50. Спявае Э.Трэскін.
13.15. Брыдж.
13.40. Бізнес-клас.
13.55. Блакнот.
14.00. Навіны.
14.25. Падарунак меламану.
◆ 14.50. "На цёмным баку Месяца". 4-я серыя.
• 16.00. "Арэхавы пруток".
16.20. Дзіцячы музычны клуб.
17.00. Навіны.
17.25. Чалавек і закон.
◆ 17.55. "Прыгоды чорнага Прыгажуна".
• 18.20. "Нябесны дар".
18.30. ТБ–"Нява".
18.50. Поле цудаў.
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Адкрыццё І Міжнароднага фестывалю мастацтваў імя А.Д.Сахарава ў Ніжнім Ноўгарадзе.
ВІД прадстаўляе
22.30. Праграма Х. У перапынку (23.00.) – Навіны.
23.50. Адпачывай.
0.05. М Ці Бі.
◆ 1.05. "На цёмным баку Месяца". 4-я серыя.

### Канал "Расія"
7.00. Весткі.
7.25. Час дзелавых людзей.
7.55. Успамінаючы Ігара Ільінскага.
8.35. Вольны час.
8.50. М-трэст.
9.05. "Вячэрні салон" у ранішнім эфіры.
10.35. "Астравы разладу. Погляд з Японіі". Частка 3-я.
11.05. Вечныя вобразы мастацтва. Дон Кіхот.
• 11.40. "Дзіўны матылёк".
◆ 11.50. "Санта-Барбара".
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
15.00. Тэлебіржа.
• 15.30. "Цудоўны яблык", "Клякса".
15.45. Паралельныя сусветы.
16.30. Мінарэт.
17.00. "Вузлы прыватызацыі".
17.45. Панове-таварышы.
18.00. "Таленты Расіі".
18.45. Экран крымінальных паведамленняў.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Спявае М.Звяздзінскі.
20.00. У свеце аўта- і мотаспорту.
20.35. "К-2" прадстаўляе: "Ведай нашых", "Ню!".
22.00. Весткі.
◆ 22.20. "Летняя паездка да мора".

## 29, субота

### Беларускае тэлебачанне
8.30. Раніца рэспублікі.
◆ 8.45. "Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана". 1-я серыя.
10.00. Паказвае Брэст.
11.00. Тыдзень планеты.
11.15. Фільм-канцэрт.
11.55. Прадстаўляе Украінскае тэлебачанне.
12.40. Дзівосны свет. "Картатэка".
13.10. Творчае аб'яднанне МЭТА.
◆ 14.10. "Міо, мой Міо".
15.45. "Фантазіі паветранага змея".
16.05. Творчае аб'яднанне МЭТА.
17.05. Трэці тайм. Футбольны агляд.
17.50. Нідэрландскія кансультанты-добраахвотнікі на Беларусі.
18.25. Творчы вечар кампазітара У.Аліхвера.
19.10. Перадача для людзей сталага ўзросту.
20.20. Дак. фільмы.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Тэлебіржа.
◆ 21.40. "Мая цудоўная лэдзі".
23.10. НІКа.
23.25. "Рок-айленд".

### 1 канал. Астанкіна
6.30. Суботняя раніца дзелавога чалавека.
7.30. Ранішняя гімнастыка.
7.40. У свеце матораў.
8.10. "Музычныя інструменты і іх гісторыі".
8.40. Як дабіцца поспеху.
8.55. Радыё "Труба".
9.25. Цэнтр.
10.05. НЛА: неаб'яўлены візіт.
10.35. Экалагічная хроніка.
10.50. Медыцыня для цябе.
11.30. Карэя: краіна, людзі, спорт.
• 12.00. "Лянота".
12.20. "У адказе вядучы за сляпога..."
14.00. Навіны.
14.25. Адкрыццё XXV летніх Алімпійскіх гульняў.
15.45. У свеце жывёл.
• 16.45. "Яноты".
17.10. Брэйн рынг.
◆ 18.05. "Дазнанне пілота Піркса".
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Аншлаг, аншлаг.
22.00. Еўропа плюс.
23.00. Навіны.
◆ 23.20. "Прынцэса цырка".

### Канал "Расія"
7.00. Весткі.
7.20. Дак. фільм.
8.00. Свет спорту вачамі фірмы "Жылет".
8.30. Праграма "03".
9.00. "Спазнаны шлях". Анатолій Мартынаў.
9.30. "Зоркі Амерыкі". Выпуск 4-ы.
10.00. "Плюс адзінаццаць".
11.15. "Як жыць будзем?".
12.00. Пілігрым.
12.45. Насустрач новаму навучальнаму году.
13.00. Весткі.
◆ 13.20. "Вам і не снілася".
14.50. "Бурда модэн" прапануе...
15.20. "Рускі" – імя прыналежнае.
16.10. Дывертысмент.
16.50. Сам сабе рэжысёр...
17.20. Ваеннапалоннае мастацтва.
17.45. Парламенцкі веснік.
18.00. Тэатральны раз'езд.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Музычная вёска.
20.00. "Усмешка Самойлава".
21.00. Зусім сакрэтна.
22.00. Весткі.
◆ 22.20. "Упершыню замужам".
23.55. "Паглядзі!" Забаўляльная праграма (Францыя). Выпуск 2-гі.

## 30, нядзеля

### Беларускае тэлебачанне
8.30. Раніца рэспублікі.
◆ 8.45. "Прыгоды Шэрлака Шолмса і доктара Ватсана". 2-я серыя.
10.00. Гамбіт.
10.30. Расказваюць тэлежурналісты Расіі.
10.50. Творчае аб'яднанне МЭТА.
11.10. "Савітар-цэнтр". Саша Варламаў.
12.00. Стракатая музычная скарбонка.
13.00. Конны спорт. Лідскі раён.
14.00. "Наша прозвішча – Кузняцовы". Тэленарыс пра сямейны дзіцячы дом.
• 14.40. "Пакацігарошак".
◆ 14.50. "На ўскраіне, недзе ў горадзе".
16.10. Наш госць – алімпійскі чэмпіён Аляксандр Раманькоў.
17.10. "Крок" прадстаўляе.
18.05. Аўтарская песня Людмілы Парамонавай.
18.35. "ФРГ з пункту гледжання..."
19.05. Выступаюць фальклорныя калектывы г.Ашмяны.
20.00. Панарама.
• 20.25. "Шчаслівчык", "Вынаходка".
20.40. Калыханка.
21.00. "Каскад". Кантакт. Інфармацыя. Рэклама.
◆ 21.10. "Мая цудоўная лэдзі".
22.45. Да 1000-годдзя Праваслаўнай царквы на Беларусі.

### 1 канал. Астанкіна
6.00. Гадзіна сілы духу.
7.00. Рытмічная гімнастыка.
7.30. Тыраж "Спортлато".
7.45. "Казакі з Баварыі".
8.15. Раным-рана.
8.55. Магчыма ўсё.
9.25. Канцэрт стыпендыятаў праграмы "Новыя імёны".
10.15. "Берлін. Нападарожныя нататкі".
10.50. На балі ў Золушкі.
◆ 11.55. "Дрэнная прыкмета".
12.30. "Дзеля аднаго слова". Музычнае апавяданне.
13.00. "Метамарфозы жывапісу".
14.00. Навіны.
14.20. Дыялог у прамым эфіры.
15.00. Клуб падарожнікаў.
15.50. Тэлелоцыя.
16.05. Панарама.
16.45. Маленькі канцэрт.
• 16.55. Уолт Дысней прадстаўляе...
17.45. Навіны.
18.00. "Памяці Марыны Цвятаевай".
19.00. Кінаафіша.
19.30. "Вораг грамадства".
21.00. Вынікі.
21.45. Спартыўны уік-энд.
22.00. "Сёння". Рэлігійная праграма.
23.00. Навіны.
23.25. "Ранішняя зорка" ў начным эфіры.

### Канал "Расія"
7.00. Весткі.
7.20. "Залатая шпора".
• 7.50. "Сунічны дожджык".
8.00. Крыніцы.
8.40. Тэлекрасворд.
9.10. Прэзентацыя газеты "Литературные новости".
◆ 9.30. "Навальніца 1812 года". Фільм 4-ы.
• 10.00. "Прыгоды ў каралеўстве". 1-я серыя.
10.30. Аты-баты.
11.00. Тэлеконкурс юрыстаў.
12.00. Нядзеля ў правінцыі.
12.45. "Шахматы на плошчы Свабоднай Расіі".
13.00. Весткі.
13.20. С.Какоўкін. "Ідзі да мяне". Прэм'ера тэлеспектакля.
14.35. "Дорэмі".
14.45. Чэмпіянат свету па аўтагонках у класе "Формула-1".
17.15. У свеце жывёл.
18.15. Складчына.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Пачатак.
20.00. "Расія – Германія: масты дзелавога супрацоўніцтва".
20.10. Тэлеканал "Фартуна". 1-я частка.
22.00. Весткі.
22.20. Тэлеканал "Фартуна". 2-я частка.

*Каб зэканоміць ваш час:*
◆ *мастацкія*
• *мультыплікацыйныя фільмы*

## ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

**А**

Архангел — жыхар Архангельска.

**Б**

Бакал — жыжкавоз.
Банкнота — пратэст банка.
Беразняк — жыхар райцэнтра Беразіно.
Бабрыха — жыхарка Бабруйска.
Бона — жыхарка Бона.

**В**

Вадакачка — шторм.
Воўк — жыхар Ваўкавыска.
Вадалаз — вір.

**Г**

Гумарыст — работнік гумавага завода.

**Д**

Донка — жыхарка Дона.

**З**

Зуброўка — самка зубра.

**К**

Кірмаш — Кіраўскі завод сельгасмашын.
Кітайка — самка кіта.
Курыльшчык — жыхар Курыльскіх астравоў.
Камсамолка — жыхарка Камсамольска-на-Амуры.
Камунгас — Камуністычная партыя (гаспадарнікаў).

**Л**

Ліфчык — смерць у выніку падзення ліфта.
Латок — жыхар Латвіі.
Лясок — сын лесніка.

**М**

Мытня — лазня.
Мінфін — міністр Фінляндыі.

**П**

Пончык — дзіцё поні.
Пярун — жыхар Пяру.

**Р**

Рачнік — лавец ракаў.
Рубанак — сякера.

**С**

Саванна — Сава, якая трапіла ў ванну.

**Т**

Талька — жыхарка Таліна.

**Ч**

Чашка — жыхарка Чашніцкага раёна.

**Ц**

Цэмент — украінскі міліцыянер.

**Алесь ЯСЮЧЭНЯ.**

*Антырэклама*

## КАРАМЕЛЬНАЯ ГАЛАВАЛОМКА

Чаго толькі ні зробіш для рэкламы сваёй прадукцыі. І відэакліпы закажаш, і прэмію паабяцаеш таму, хто збярэ ўвесь набор фанцікаў пэўнага выпуску, і ў газету аб'яву дасі. Кандытарская ж фабрыка "Камунарка" выпусціла з гэтай мэтай арыгінальны гатунак карамелі. Праўда, карамель самая звычайная, але вось яе назва напісана на незразумелай мове. Ці то на рускай, ці то на беларускай, ці то сумна вядомай "дземянцееўцы". Адміністрацыя фабрыкі, пэўна, спадзяецца, што жадаючыя высветліць гэта пытанне ў момант раскупяць усе гэтыя карамелькі.

А ўсё ж хацелася, каб кіраўнікі "Камунаркі" самі растлумачылі, што за мова ўжыта для назвы іх прадукцыі.

**М.Багадзяж.**






*Жарцінкі*

## УЦЯМІЎ

Два сябрукі сядзяць у рэстаране.

– Сябра, як ты думаеш, што больш уздзейнічае на вочы: гарэлка ці каньяк? – пытаецца адзін у аднаго.

– Вядома ж, каньяк.

– А чаму?

– Як вып'еш бутэльку яго, дык адразу грошай не бачна.

**Уладзімір Шкаброў.**

КАСА



*Калонка парадыста*

Антон ПРЫЦЭЛ

ЛАВІ ІМГНЕННЕ!..

*Няхай трашчыць па швах сусвет,*
*Абы рублі былі ў кішэнях,*
*З краямі налівай, сусед, —*
*Лаві імгненне!..*
*Нам напляваць!.. Усё адно,*
*Што скажа хто!..*
*Бакалы ўспенім!..*
*Няхай жа не ўсыхае дно, —*
*Лаві імгненне!..*

*Алег ЛОЙКА*

Хто я: прафесар ці паэт?
Абы рублі ў кішэнях,
З краямі налівай, дацэнт,—
Лаві імгненне!
Уздымем тост за маладых.
Хай будзе ім натхненне.
Дык вып'ем жа за іх, —
Лаві імгненне!
Каб ім пісалася штодзень,
Давай бакалы ўспенім!
Ну, што ты там гудзеш? —
Лаві імгненне!
Няхай на цэлы свет
І ганьбіць прэса,
Маўляў, я не паэт.
Затое я прафесар!
Ну, за натхненне!..
Лаві імгненне!..

*Суботні фельетон*

# МАРЫ ПРА ДАЛЯРЫ,

## або Як расейскі смажаны арол нашых паштавікоў пабудзіў

Закарцела аднойчы Міністэрству сувязі Рэспублікі Беларусь, каб і пра яго ў газеце напісалі. Задумалася яно, што б такое ўчыніць, які б такі кілабайт выкінуць, каб усе рэспубліканскія журналісты яго заўважылі, у сваіх паміраючых газетах адлюстравалі і тым самым у новую незалежную гісторыю ўпісалі.

Але ж міністэрства, яно і ў Афрыцы міністэрства... Пакуль пагадняліся ды рыхтаваліся канцэпцыі, пакуль сачыняліся і падпісваліся кантрацэпцыі, жаданае само ўсплыло, і як, на жаль, высветлілася, засмярдзела зусім не сургучом славы, але акурат вадарам міжнароднага скандалу.

Праўда, міністэрства не было б міністэрствам, калі б яно само ўзняло рукі ўгору і абвясціла пакрыўджанаму ўласнаму кліенту: прабач, браток, хто ж ведаў, што спраўдзяцца перасцярогі бэнээфаўцаў, маўляў, ад маскаля не чакай дабра, а чакай кухталя!"

Расказвае Людміла Іванаўна Аўхімовіч, намесніца начальніка ўчастка апрацоўкі міжнароднай карэспандэнцыі Мінскага галоўпаштамта:

— З канца сёлетняга сакавіка ў наш аддзел пайшлі скаргі ад грамадзян рэспублікі ў сувязі з тым, што міжнародная карэспандэнцыя, якая ідзе з-за мяжы праз Маскву, аказваецца абрабаванай. Але мы аб гэтым і самі здагадваемся, бо нашыя семнаццаць супрацоўнікаў візуальна гэта канстатуюць і адпаведнымі штампамі на кувэртах фіксуюць.

Расповяды спадарыні Аўхімовіч і начальніка галоўпаштамта спадара Маслава нагадваюць дэтэктыў, п'есу абсурду і фільм жахаў адначасова. Паводле іх слоў, з Масквы лісты адпраўляюцца як мае быць; у мяхах з дыхтоўнымі пломбамі. У Мінску экспертыза вывучае пломбы, аглядвае кожную цалю тары і канстатуе ейную спраўнасць. Але як толькі папяровыя сумёты трапляюць на сталы "выдатнай семнаццаткі", высвятляецца, што "амаль ва ўсіх заказных лістах клапаны аказваюцца адклеенымі ды зноў заклеенымі".

Не, не спяшайся, шаноўны наш падпісчык, абвінавачваць руку расейскай КДБы, або чылійскай ДЗІНы, або ізраільскай МОСАДы. Часы, калі нам залазілі ў галаву, ужо год як сканалі. Цяпер нам залазяць у кішэню. Так, так у кішэню, бо з пісьмаў крадуцца не запыты аб колькасці "сухароў" у Мачулішчах ці аб тым, колькі даляраў каштуе трохпакаёвая кватэра насупраць штаба ЧБВА, але самі даляры, шэкелі, песеты і тугрыкі, якія з-за адсутнасці магчымасці быць перасланымі паштовым пераводам, дбайна загортваюцца ў "банжуры", "шаломы" ды "буэнасдыясы" нашых замежных адрасантаў. Невядомы злодзей настолькі спрактыкаваны, што пакідае нераскрытымі толькі тыя кувэрты, у якіх няма валюты. А яшчэ ён адкульсці ведае, што згодна з Міжнароднай канвенцыяй членаў Сусветнага паштовага саюза, перасылка грошай у лістах не дазволена, але разам з тым і не караецца законам. Гэта можна растлумачыць, як тое, што ў выніку згубы пісьма з укладзенай у яго валютай паштовыя службы нясуць адказнасць выключна за страту эпісталярных радкоў, і ў ніякім разе — за пазбаўленне грошай.

Самае ж дзіўнае, наш таямнічы "добразычлівец" ведае пра заяву Расейскага міністэрства сувязі ў адрас вышэйпамянёнага саюза, што яно не бярэ на сябе адказнасць за карэспандэнцыю, якая накіравана з-за мяжы ў краіны СНГ праз Маскву, маўляў, суверэнітэту яны дамагліся, ну дык няхай і атрымоўваюць пошту напрамую, без расейскага пасрэдніцтва.

Вось якім тварам наш былы "старэйшы брут" павярнуўся да сваіх нядаўніх "сабрутыльнікаў". Нават не твар гэта, а штосьці дзюбастае, драпежніцкае... Пабудаваў той "брут" Шарамецьева-2 на агульныя грошыкі, а цяпер здзекуецца: радзіўся без долі, дык еш без солі.

Што тычыцца солі, дык па яе радовішчах мы другое месца ў свеце трымаем. А начальнічкі нашыя недальнабачныя ўсё ніяк недацямяць, у чым яна. Вось і цяпер, праспаўшы ў шапку ўсю перабудовачную зіму, зваліліся яны з печы, ды і просяць вуснамі начальніка ўпраўлення паштовай сувязі Аркадзя Пятровіча Краўцова не пісаць пра іх у газету да канца верасня. За гэты час яны ў Польшчу ды на Нямеччыну за народныя грошыкі злётаюць, пратаколы аб намерах падпішуць, Бундэспоштаўскага піўца пап'юць — тады і пачнуць з задавальненнем даваць інтэрв'ю і трубіць у фанфары аб вырашэнні праблемы, якую можна было прадбачыць без "дапамогі" расейскага смажанага арла.

**Андрэй Смірноў.**

Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК СМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.



Зак. № 34.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12